

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА
ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

№ 11 (13) Сьнежань 1994 December Год выд. 2

# Вясёлых Калядаў!!!
# Шчасьлівага Новага 1995-га Году!!!

*Жадае Ўсім Чытачом — Выдавец.*

## Паводле Мацьвея
### Разьдзел 2.

1. Калі Ісус нарадзіўся ў Бэтлееме Юдэйскім
у днёх караля Ірада, вось прыйшлі мудрацы
з усходу ў Ерусалім і кажуць: 2. — Дзе ёсьць
народжаны кароль Юдэйскі? Бо мы бачылі зару
Ягоную на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму.
3. Пачуўшы гэтае, кароль Ірад занепакоіўся, а зь
ім і ўвесь Ерусалім. 4. І склікаўшы вышэйшае сьвятарства й кніжнікаў народных, выпытваў у іх, дзе
прызначана нарадзіцца Хрысту. 5. Яны-ж сказалі
яму: — У Бэтлееме Юдэйскім, бо гэтак напісана ў
прарока: 6. "І ты, Бэтлееме, зямля Юдава, нічым
ня меншы ў ваяводзтвах Юдавых, бо зь цябе выйдзе Правадыр, які будзе кіраваць народам Маім
Ізраельскім". 7. Тады Ірад, тайком паклікаўшы мудрацоў, выведаў у іх час зьяўленьня зары. 8. І, паслаўшы іх у Бэтлеем, сказаў: "Пайдзеце й дакладна даведайцеся пра Дзіцятка; і калі знойдзеце, паведамеце мяне, каб і я мог пайсьці пакланіцца Яму".
9. Яны-ж, выслухаўшы караля, адыйшлі; і вось зара́, якую бачылі яны на Ўсходзе, ішла прад імі, аж
пакуль, дайшоўшы, спынілася над месцам, дзе было
Дзіцятка. 10. Угледзеўшы-ж зорку, яны ўзрадаваліся вельмі радасьцю вялікаю. 11. І, увайшоўшы ў
будыніну, убачылі Дзіцятка з Марыяй, Маці Ягонаю,
і паўшы ніц, пакланіліся Яму; і, адчыніўшы скарбы
свае, прынясьлі Яму дары: золата, ладан і сьмірну.
12. Атрымаўшы-ж у сьне перасьцярогу не варачацца да Ірада, іншым шляхам адыйшлі ў краіну сваю.
13. Калі-ж яны адыйшлі, вось Ангел Гасподні
зьяўляецца ў сьне Язэпу й кажа: "Устань,
вазьмі Дзіцятка й Маці Ягоную й бяжы ў Егіпет,
і будзь там, пакуль не скажу табе, бо Ірад хоча
шукаць Дзіцятка, каб загубіць Яго". 14. Ён устаў,
узяў Дзіцятка й Маці Ягоную і ўначы пайшоў у
Егіпет. 15. І быў там да сьмерці Ірада, каб збылося
сказанае ад Госпада праз прарока, які гаворыць:
— "Зь Егіпту паклікаў Я Сына Майго". 16. Тады
Ірад, зазнаўшы зьнявагі ад мудрацоў, разьярыўся
гневам і паслаў выбіць у Бэтлееме і ў ваколіцах
яго ўсіх дзяцей ад двух год і ніжэй паводле часу,
выведанага ад мудрацоў. 17. Тады збылося сказанае праз прарока Ерамію, які гаворыць: 18. — "Голас у Раме чуцён, пла́ч, галашэньне й лямант вялікі:
Рахіль плача па дзецях сваіх і ня хоча суцешыцца,
бо няма ўжо іх". 19. Калі-ж Ірад памёр, вось Ангел
Гасподні ў сьне зьяўляецца Язэпу й кажа: 20. — "Устань, вазьмі Дзіцятка й Маці Ягоную ды йдзі ў зямлю Ізраілеву, бо зьмерлі тыя, якія шукалі душы Дзіцяці". 21. І ён, устаўшы, узяў Дзіцятка й Маці Яго
ды прыйшоў у зямлю Ізраілеву. 22. А, дачуўшыся,
што ў Юдэі ўладарыць Архелай на месцы бацькі
свайго Ірада, пабаяўся туды йсьці; атрымаўшы-ж
вестку ў сьне, пайшоў у краіну Галілейскую. 23. І,
прыйшоўшы, пасяліўся ў месьце, званым Назарэт,
каб споўнілася сказанае праз прарокаў, што: "Ён Назарэем назавецца".

*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю-ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!*



МІНСКАЯ ПРАЎДА

# ВАЗЬМУ ТВОЙ БОЛЬ,

## калі будуць сродкі ў бюджэце

**Згадзіцеся, не самы лепшы аргумент у спрэчцы пацыента з урачом. Хворы, калі яму баліць, не можа спадзявацца на светлае будучае. Бо баліць яму сёння. І любыя доказы разбіваюцца аб непераадольную сцяну чалавечай пакуты. А ўрач абавязаны і павінны. Як сумясціць гэты прафесійны і чалавечы абавязак з рэаліямі сённяшняга дня? Аб гэтым — гутарка нашага карэспандэнта М.Кузаўкінай з галоўурачом Вілейскай стаматалагічнай паліклінікі Мікалаем Васільевічам КУРЫЛОВІЧАМ.**

***— Усё, як вядома, пазнаецца ў параўнанні. Дык вось, давайце параўнаем узровень стаматалагічнай службы ў Беларусі і суседніх краінах далёкага замежжа...***

— Я не хачу параўноўваць па ўсіх параметрах. Гэта будзе доўга і крыўдна для нас. Але пра адзін хачу сказаць. Нашымі пламбіровачнымі матэрыяламі ўжо пяцьдзесят год нідзе не карыстаюцца, нават у Польшчы.

***— І там, напэўна, так хутка не "з"ядаюць" пломбы?***

— Так. Цывілізаваны свет карыстаецца пламбіровачнымі матэрыяламі чацвёртага пакалення. Яны цвярдзеюць пад уздзеяннем святла. Тое ж і ў пратэзнай справе. За мяжой выкарыстоўваецца металакераміка.

***— Гэта тыя бліскучыя, раўнюткія зубы, якія мы бачым у эстрадных артыстаў?***

— Гэта не выключана. Толькі абсалютнай большасці з нас падобная раскоша не па кішэні. Патрэбны спецыяльныя ўстаноўкі, якія каштуюць вельмі дорага. Тут не да раскошы. Мець бы элементарнае.

***— Калі металакераміка нам, як кажуць, не свеціць, што вы разумееце пад элементарным?***

— Добрае мясцовае абязбольванне, добрыя анестэтыкі, высокаабаротныя турбінныя ўстаноўкі. Апошнія мы маем, але боры старыя, зношаныя. Каб новыя набыць, няма сродкаў. Сябе мучым і хворых.

***— Вы загаварылі пра анестэзію. У некаторых платных клініках нават лячэнне іншы раз праводзяць пры мясцовым абязбольванні...***

— А вы лічыце такі падыход негуманным? Рух дабрачыннасці, шырока развіты на Захадзе, — хіба гэта не імкненне падзяліцца накопленым багаццем? У грамадстве роўных магчымасцей не можа існаваць матэрыяльнай роўнасці. Гэта непрывычна ўсведамляць, але так яно ёсць. Грамадскі прадукт абмежаваны. І калі хтосьці адхапіў ад агульнага пірага большы кавалак, другому застаецца менш.

***— Гэта відавочна. Цяпер давайце крыху памарым. Былі б у бюджэце сродкі, разумна неабмежаваныя. Якім вы ўяўляеце у такім выпадку стан гарадской стаматалагічнай службы?***

— Для Вілейкі хацеў бы пабудаваць невялікую, узведзеную па тыпавому праекту паліклініку. Хацеў бы, каб пратэзную гаспадарчаразліковую службу пазбавілі ад рабаўніцкіх падаткаў. Сёння мы плацім 51 працэнт ад прыбытку. Тады б можна было гаварыць аб сучасных матэрыялах для лячэння і пратэзавання, аб нармальнай заработнай плаце. А на самую бліжэйшую перспектыву ідэальны варыянт — гэта паўтара мільёна рублёў у новых цэнах. Яны патрэбны для пратэзавання. Калі мы тэрмінова не закупім патрэбны матэрыял, вытворчасць спыніцца.

***— Вы нічога не сказалі пра кадры. Можа, хоць тут без праблем?***

— Вы маеце рацыю. Штаты ў нас укамплектаваны, прычым — маладымі спецыялістамі. Наша паліклініка — база для інтэрнатуры. Таму мы маем магчымасць самі падбіраць сабе работнікаў. За апошнія два гады поўнасцю ўкамплектавалі горад, цяпер дапамагаем раёну. Праблема адна: найчасцей да нас ідуць дзяўчаты. Паглядзіш у ВНУ: сярод будучых стаматолагаў каля трэці — мужчыны. Але ў правінцыю яны чамусьці не едуць. А жанчыны — гэта замужжа, дэкрэтныя водпускі, праблемы з дзіцячымі хваробамі. Раней усё гэта кампенсавалася здзельнай аплатай працы. Спецыялісты працавалі па паўтары-дзве стаўкі. І практычна кожны хворы без праблем мог атрымаць неадкладную дапамогу. З першага чэрвеня з-за адсутнасці грашовых сродкаў механізм гэты пахаваны. Усіх пасадзілі на голую стаўку. Таму зноў стаў дзейнічаць папяровы запіс, з"явілася напружанасць у рабоце.

***— Што б вы маглі сказаць наконт дынамікі росту стаматалагічных захворванняў?***

— Наконт росту вы таксама маеце рацыю. Я ў стаматалогіі дваццаць год. А іншы раз не маем навакаіну на аперацыю па выдаленню зуба. Разбаўляем вадой. І эфект — больш псіхалагічны.

***— Мы пакутуем ад таго, што апусцела база медабсталявання? Медыкаменты — тавар, нявыгадны для вытворцаў?***

— Не ў тым справа. Сёння адна праблема — грошы. Са стварэннем камерцыйных структур узнікла магчымасць больш таннага набыцця медыкаментаў. Але... Мяркуйце самі: для больш-менш нармальнай работы паліклініцы патрэбна штомесяц мець 12 мільёнаў рублёў. А мы з пачатку года атрымалі... тры /па старых цэнах/. Як жывём? Падбіраем старыя запасы.

***— Вы бачыце выхад?***

— Пакуль нас будуць фінансаваць ТМА і раённы бюджэт, нічога, напэўна, не вырашыцца.

Наконт выхаду. Праблема можа быць вырашана ў двух аспектах: рабіць стаматалогію альбо страхавой, альбо платнай. Дарэчы, у некаторых паліклініках хворыя ўжо аплачваюць кошт пламбіровачнага матэрыялу.

***— Вілейка не спрабавала ўкараніць у сябе гэты вопыт?***

— З першага верасня ў паліклініцы працуе кабінет платнага лячэння зубоў. З дазволу райвыканкома ён функцыяніруе пакуль як эксперыментальны. Цэны для людзей сярэдняга дастатку ўвогуле прымальныя. Так, лячэнне карыесу без кошту пламбіравання абыходзіцца для кліента ў тысячу рублёў. Кошт пламбіровачнага матэрыялу вагаецца ў межах ад пяці да трохсот дванаццаці рублёў /сярэбраны сплаў/.

***— Кабінет існуе паралельна з платным, у паліклініцы па- ранейшаму ёсць бясплатнае лячэнне. Мусіць, хворы не вораг свайму кашальку... Не можаце ж вы працаваць з рознымі меркамі падыходу...***

— Падыход адзін. Але ў платным кабінеце мы можам рэкамендаваць больш якасны матэрыял і інструментарый. Калі гэтая форма ўкарэніцца, зможам нешта набыць і для астатніх кабінетаў.

***— Багаты будзе лячыць беднага?***

— Захворваемасць павялічваецца катастрафічна. Гэта звязана і з незахаваннем патрабаванняў гігіены, і з нясвоечасовым пратэзаваннем. Ці заўсёды тут вінаватыя хворыя? Раней паста каштавала капейкі, цяпер... Раней на пратэзаванне былі чэргі, цяпер жа адпуджваюць цэны. А якасць харчавання...

***— Ну, з гэтымі праблемамі яшчэ доўга не справіцца. І паколькі ўжо выдалася такая магчымасць, дайце, калі ласка, нашым чытачам некалькі парад наконт прафілактыкі стаматалагічных захворванняў.***

— Амерыкі я вам не адкрыю. Пасты лепш выкарыстоўваць імпартныя. Зубы парашок можна, але не часцей аднаго-двух разоў у месяц. Прывучайце дзяцей чысціць зубы...

***— Ну а які стан зубоў у членаў сям"і галоўнага стаматолага горада?***

— У нас з жонкай усе зубы на месцы, праўда, не без пломбаў. Малодшая дачка, ёй шэсць год, не ведае, што такое бормашына. У двух старэйшых сыноў зубы практычна здаровыя, хоць некалькі з іх давялося падлячыць...

***— Ну што ж, пажадаем вам і далей не ведаць зубнога болю...***

— Вам і вашым чытачам — таксама.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# Беларусы паміж небам і зямлёй

**Як беларусы дазволілі зьнішчыць сваю прыроду — і засталіся ў незнаёмай мясцовасьці, а ў дадатак страцілі ўласны характар**

За тры кіламетры ад вёскі Горск сярод балота быццам спецыяльна насыпалі грудок. На ім пасадзілі арэх, ліпу, рабіну, бярозу, дуб, каліну. Дрэвы стаялі, як у садзе, — паасобку. Прастору між імі залівала разнатраўе.

Усё гэта стварыла Прырода. А людзі назвалі тое месца Язвіны.

У чэрвені балотны востраў Язвіны напаўняўся народам. Густыя сухадольныя травы ашчадна выкошвалі.

Праз месяц-другі касілі густую атаву.

У канцы лета тут пачыналіся нарыхтоўкі арэхаў. Яны радзілі кожны год. Іх збіралі мяхамі.

Востраў Язвіны карміў і песціў вёску Горск многа дзесяцігоддзяў.

У шасцідзесятых гадах Язвіны выкарчавалі да апошняга пянька. Наўкольныя балоты, вядома ж, асушылі. Дзе быў востраў-сад — пустэча. Толькі свішчуць вецер і пясок.

На голым піку былога вострава вецер б'е ў разваленыя сцены нейкай будыніны. Гэта млын. Былы.

Пасля асушэння балоты засеялі культурнай травой. Яе малолі ў муку. Культурная трава хутка перастала расці, млын аказаўся непатрэбным, і саўгас "Прагрэс" кінуў яго на волю лёсу.

Разваліны млына відаць здалёку. Яны, можна сказаць, дамінанта наваколля. Неверагодна, але гэтая дамінанта — безыменная! На месцы вострава Язвіны — нішто. Нейкая дзірка ў прыродзе. У эканоміцы. У мове!

Беларусь пацвердзіла непахісны закон: бяднее прырода — бяднее і мова.

Неяк я са сваёй маці Марыяй Іванаўнай — яе няма ўжо пяць гадоў — падлічылі: у ваколіцах нашага Горска жылі-былі 126 слоўцаў. Кожны лясок, пагорачак, балотца, лужок меў сваё імя. Кожная дарожка і ручаіна!

Са ста дваццаці шасці мо з дзесятак засталіся ва ўжытку. Астатнія словы без патрэбы забываюцца, забываюцца.

З прыроды знялі скальп. І яна анямела. А следам — чалавек. Мясцовая тапаніміка — цэлая галіна народнай творчасці — засыхае, засыхае.

Сумнае назіранне: старыя тапанімічныя назвы народ забывае, а новыя — не стварае. Хіба не дзіўна: на месцы сада з'явіўся стэпавы курганок, а назвы яму — няма!

Куды падзявалася назіральнасць народа?

Чым адгукнецца ў чалавеку жытка ў незнаёмай мясцовасці, без тапанімічнай арыентацыі, без рэалізацыі свайго чалавечага права ўсё наўкола аналізаваць, іменаваць?

Я памятаю, калі ў кожным сялянскім двары, недзе ў дальнім кутку, быў сметнік, куды і выкідвалася ўся непатрэбшчына. Сметнік абавязкова быў агароджаны плятнём, каб не разграблі тое смецце куры ды не разнёс вецер.

Нядаўна я палазіў па лясочках, што засталіся каля маёй вёскі. Яны заваленыя смеццем! Вёска вывозіць у лес усе свае адыходы, увесь свой бруд улівае ў прыроду.

Знішчэнне спрадвечнага народнага асяроддзя, пачатае савецкімі ўладамі, падхапіў экалагічна несвядомы народ.

Свая прырода лепіць нацыянальны характар. А незнаёмая мясцовасць, што заняла месца роднай прыроды, нацыянальны характар разбурае.

У адным з калгасаў я быў сведкам, як стары паляшук, падкуплены старшынёй, крычаў на сходзе: "Хутчэй асушыце праклятае балота, хачу хадзіць па ім у тапачках."

"Дзед, — сказаў нехта з залы, — у сухім балоце зьнікнуць качкі, а ты ж — паляўнічы."

"Не бяда, — адгукнуўся дзед, — качку я куплю ў магазіне."

Прайшло некалькі гадоў — і не стала качкі ў тым балоце, бо ваду з яго спусцілі ў Чорнае мора. Калгас не выгадаваў свойскую качку. Той дзед у тапачках, а таксама яго дзеці і ўнукі перайшлі на нішчымную бульбачку.

Акалгаснены дзед-паляшук — вырадак. Таму што выгнаў сваіх нашчадкаў з надзейнай прыроднай нішы, абрэзаў іх карані. Агаладалыя, бязмоўныя нашчадкі апынуліся паміж небам і зямлёй.

Татальная меліярацыя ў Беларусі пачалася ў шасцідзесятых гадах, пры Хрушчове, які любіў асвойваць новыя прасторы. Вельмі любіў меліярацыю партыйны ўладыка ўсея Беларусі Машэраў. Так званую меліярацыю. Бо нічога агульнага з сапраўдным паляпшэннем зямлі яна ў многіх месцах не мела.

Сёння можна падвесці несуцяшальныя вынікі беларускай псеўдамеліярацыі. Асушана — акругляю лічбы — тры мільёны гектараў балот і забалочаных зямель. Але ворыўнай зямлі не прыбавілася: як было шэсць мільёнаў гектараў, так і ёсць. Чаму не прыбавілася, калі асушалі новыя плошчы з адзінай мэтай — прыбавіць? Таму, што за гэты ж час — за трыццаць гадоў — страчана тры мільёны староворыўнай зямлі, якая служыла народу стагоддзі. Яна ператварылася ў пяскі, зарасла хмызняком. У лепшым выпадку на ёй пасадзілі сасновыя лясы.

У асушаныя балоты закапаны мільярды народных грошай, прымітыўная меліярацыйная сетка не гарантуе ўраджаю, штогод правакуе разбуральныя навадненні. Яе трэба перарабляць. А на якія сродкі?

Народ не пратэставаў супраць згубнай меліярацыі.

Мне вядомы адзіны ў Беларусі выпадак, калі жыхары вёскі Пясочнае Капыльскага раёна не дазволілі асушыць апошнія лясочкі, дзе вадзіліся бабры. Адзіны выпадак пратэсту супраць знішчэння роднай прыроды — гэта сорам для беларускага народа і гэта яскравы прыклад яго самазнішчэння.

У шасцідзесятых гадах дваццатага стагоддзя пачалося апошняе наступленне на беларускі этнас. Апошняе — таму што яно самае ўдалае. Меліярацыя разбурыла прыродны комплекс, дзе бярэ пачатак нацыянальны характар, адкуль выцякае тая рака-компас, што арыентуе чалавека ў прасторы і часе.

Зямля без тапанімічных адзнак — чужая зямля.

Новыя тапанімічныя назвы звычайна прыдумляюць каланізатары.

*Анатоль КАЗЛОВІЧ*



# *КАНФЭРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ...*

Беларусы... Цяжкі і неспагадны лёс выпаў на долю нашага народа. Шматлікія войны, што хвалямі пракочваліся па нашай зямлі, нястача, мара пра лепшае жыццё — усе спрыяла таму, што многія нашыя землякі апынуліся па-за межамі сваёй Радзімы, у розных краінах, землях, на розных кантынентах. Варта толькі згадаць, што амаль кожны трэці беларус жыве на чужой зямлі. Але такую ўжо сілу мае нашая зямля, што людзі, пакінуўшы яе, не могуць пазбыцца згадак пра свой родны кут, не могуць адрачыся ад гордага імя — «беларусы». І гэтая цяга прымушае іх далёка ад Беларусі працаваць на беларускую культуру, навуку і адукацыю. Гэтае імкненне сабрала нашых землякоў з блізкага і далёкага замежжа ў зале Дома літаратара на міжнародную навуковую канферэнцыю «Культура беларускага замежжа».

Форум адбыўся 12-13 чэрвеня 1994 г. Як адзначалі шмат якія прамоўцы, ніколі яшчэ беларуская зямля не прымала адначасова стольніх многіх прадстаўнікоў нашае дыяспары. Тут сустрэліся беларусы з ЗША і Расеі, з Польшчы і Украіны, з Нямеччыны і Таджыкістана, з Літвы і Узбекістана... Яшчэ колькі год таму такая сустрэча была б немагчымаю, бо камуністычны ўрад з вялікаю насцярогаю ставіўся да эмігрантаў.

У нашых землякоў за мяжою, пазбаўленых магчымасці каардынаваць свае высілкі па захаванні беларускае культуры, накапілася шмат пытанняў. І пра гэтыя праблемы ішла зацікаўленая гутарка на канферэнцыі. Дакладчыкі адзначылі вялікую ролю эміграцыі ў захаванні беларускае культуры ў той час, калі на Беларусі імклівa ішоў працэс дэнацыяналізацыі і русіфікацыі. Як заўважыў старшыня аргкамітэта канферэнцыі прафесар Анатоль Сабалеўскі, культура — гэта не толькі захаванне, але і развіццё. І сапраўды, беларусы, жывучы ў іншанацыянальным акружэнні, не маглі не ўбачыць у сябе элементы іншых культураў, што, безумоўна, узбагачала беларускую культуру. І для збірання гэтай багатай спадчыны неабходна стварaць адмысловы каардынуючы цэнтр.

Акадэмік Радзім Гарэцкі азнаёміў прысутных з умовамі ўсталявання беларускае дзяржаўнасці.

Зора і Вітаўт Кіпелі зрабілі агляд замежнага беларускага друку.

Алесь Карлюкевіч спыніўся на праблеме ўзаемасувязяў беларускае і мусульманскіх культураў...

Цяжка пералічыць усіх выступоўцаў і акрэсліць кола пытанняў, узнятых імі. Сярод гэтых пытанняў — неабходнасць стварэння музея «Беларусы ў свеце», збор усіх друкаў, выдадзеных за мяжою і расшыфроўка псеўдонімаў... Вельмі часта гучалі з трыбуны скаргі на тое, што цяперашні беларускі ўрад не зважае на праблемы, якія стаяць перад дыяспарай і фактычна нічым не дапамагае ёй...

Пасля скaнчэння работы канферэнцыі ў будынку філармоніі адбыўся канцэрт, на якім выступалі беларускія выканаўцы. Але сапраўднымі дыяментамі тут сталіся выступы дзіцячага хора з Рыгі і Маскоўскага фальклорнага гурта «Надзея», якія пранікнёна і шчыра праспявалі беларускія народныя песні, што далёка ад Бацькаўшчыны грэюць сэрцы нашых землякоў.

Такім чынам, канферэнцыя адбылася. Безумоўна, гэты форум стаўся адной з прыкметных з'яваў беларускае культуры. Хочацца верыць, што добрая традыцыя правядзення падобных акцыяў паслужыць справе яднання беларусаў усяго свету і дапаможа нашым землякам за мяжою захаваць сваю аўтэнтычнасць і не згубіць сувязі з маці-Беларуссю.

"Беларуская Мінуўшчына" Г. П.

# ВЫСНОВЫ
## Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы

Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы разгледзела стан літаратурнай мовы і яе ўжыванне ў апошнія гады ў пісьмовай і вуснай формах, матэрыялы шырокага навуковага і грамадскага абмеркавання яе сучасных праблем. Функцыяніраванне і развіццё літаратурнай мовы ў сучасных умовах нацыянальнага адраджэння з наданнем ёй статуса дзяржаўнай мовы, існуючыя ў ёй нормы і правілы патрабуюць уважлівага разгляду і аналізу. Існуе неабходнасць у развіцці слоўніка літаратурнай мовы, асабліва тэрміналогіі, у даследаванні і распрацоўцы яе граматычнага ладу, асабліва сінтаксісу, у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў і павелічэнне да іх увагі, у пераглядзе правапісу, а таксама ў шырокім грамадскім абмеркаванні стану мовы і яе ўдасканалення, якое зараз праводзіцца.

У апошні час у беларускай літаратурнай мове склалася вельмі небяспечная для яе сітуацыя. Яе існуючыя нормы і прынятыя правілы, замацаваныя ўжо шматгадовай практыкай і пашыраныя ў розных сферах яе ўжывання (у непасрэдных зносінах, у кнігадрукаванні і інш.), пачалі масава парушацца не толькі па неахайнасці, у сувязі з вольным разуменнем іх і па непісьменнасці — пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне ў практыцы ўжывання мовы, асабліва ў друку, іншых моўных нормаў і правілаў. У выніку гэтага ў літаратурнай мове абазначылася фактычнае суіснаванне дзвюх практычных нарматыўных арыентацый. Узнікненне такой моўнай сітуацыі можна вытлумачыць і зразумець, але наўрад ці можна пагадзіцца з тымі, што лічаць яе нармальнай, па сутнасці падтрымліваюць курс на ўсталяванне літаратурнага двухмоўя і не бачаць у гэтым нічога небяспечнага, не бачаць, што гэта ёсць разбурэнне самой літаратурнай мовы і дэзарганізацыя ў сферах яе практычнага ўжывання і пашырэння. На пасяджэннях Камісіі ў выніку разгляду і аналізу матэрыялаў грамадскага абмеркавання існуючых праблем літаратурнай мовы было ўстаноўлена і акрэслена шырокае кола канкрэтных пытанняў, якія патрабуюць вырашэння дзеля яе развіцця і ўдасканалення. Аднак праца Камісіі была сканцэнтравана, як гэта і належала, над пытаннямі правапісу.

Камісіяй быў праароблены аналіз вялікай колькасці розных нярэдка супярэчлівых прапаноў і меркаванняў па змяненню або ўдасканаленню існуючых правапісных правілаў, якія былі выказаны ў перыядычным рэспубліканскім друку, на акадэмічнай канферэнцыі па правапісу, а таксама ў шматлікіх лістах грамадзян у Камісію. У канцэнтраваным і сістэматызаваным выглядзе былі прадстаўлены ў Камісію прапановы Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Гэты аналіз меў не толькі навуковы, экспертны характар. У многіх выпадках ён праводзіўся шляхам разгорнутых эксперыментаў на канкрэтных матэрыялах літаратурнай мовы для аб'ектыўнай, навуковай ацэнкі практычнай прыдатнасці і большай дасканаласці прапанаваных правілаў у параўнанні з існуючымі. Аналізаваліся таксама прапановы членаў Камісіі, варыянты распрацовак правілаў. Маючы ж на ўвазе існуючую зараз у літаратурнай мове сітуацыю, Камісія імкнулася да пошукаў розных кампрамісных варыянтаў правілаў правапісу, якія дазволілі б пазбавіцца ад існуючага зараз правапіснага разнабою і канфрантацыі.

Вынікам працаглай і нялёгкай працы Камісіі з'явіліся прапановы па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, апублікаваныя для шырокага абмеркавання. Па многіх пытаннях правапісу ў Камісіі быў дасягнуты пэўны кампраміс або згода адкласці іх абмеркаванне і вырашэнне. Не дасягнута было адзінства толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме, і ў прыватнасці, для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Гэта галоўная праблема сучаснага разнабою ў правапісе, і ёй была ўдзелена ў рабоце Камісіі вялікая ўвага. На грамадскае абмеркаванне было вынесена чатыры варыянты яе канкрэтнага вырашэння.

Грамадскае абмеркаванне прапаноў Камісіі паказала, аднак, што адзначанай падтрымкі не атрымаў не толькі ні адзін з распрацаваных варыянтаў вырашэння праблемы асіміляцыйнай мяккасці зычных, але таксама і яе найбольш істотныя прапановы па іншых правілах існуючага правапісу. А галоўнае — не атрымала належнай падтрымкі само мовазнаўчае мерапрыемства па ўдакладненню і змяненню правапісу. Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз'яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з'яўляецца несвоечасовым і немэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі нават іх апраўданасць у інтарэсах самой мовы і не выклікае сумненняў. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць. Небяспекі ў такім стрыманым падыходзе да вырашэння гэтай праблемы — няма, бо наогул мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць, паддавацца пачуццю боязі — хаця б не спазніцца. Найвялікшая сёння наша бяда не ў тым, што правапіс вельмі ж ужо недасканалы, а ў тым, што ўвогуле беларускай мове, нягледзячы навет на яе дзяржаўны статус, усё яшчэ пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку мацней усталяванай у нас мовы міжнацыянальных зносін, што становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць кволае. На думку многіх рупліўцаў роднага слова, актуальнай задачай з'яўляецца зараз пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах. Змяненні ж у правапісе цягнуць за сабой не толькі матэрыяльныя выдаткі і затраты значнага часу на іх пашырэнне і ўкараненне, але і зніжэнне прэстыжу беларускай літаратурнай мовы, тэмпаў яе пашырэння ва ўжыванні. Ды і змяненні ў правапісе непазбежна вядуць да нестабільнасці яе самой. Абмеркаванне паказала таксама, што разважанні аб правапісе ў некаторых выпадках выходзяць за межы яго галоўнай моўнай і мовазнаўчай сутнасці.

Таму Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы прапануе:

(Працяг на 6-ай стар.)

# не паважаюць іншыя

з'яўляецца і дэпутатам Мінскага гарсавета, уваходзячы, як здаецца, у кагорту неардынарных народных абраннікаў органа мясцовай улады. Дырэктар і дэпутат у адной асобе — грамадская вага немалая — між іншым паведаміла ўсім нам, што педкалектыў тэхнікума ўвогуле не настойвае на засваенні беларускай мовы навучэнцамі асобных спецыяльнасцей. А прычынай таму з'яўляецца, маўляў, рускамоўнасць банкаўкай сістэмы ў Беларусі. І ўвогуле мы ідзём да "единой рублевой зоны", таму тут не проста "какая разница", але няведанне беларускай мовы быццам бы і функцыянальна неабходна.

У гэтай сувязі прыгадваецца пачутае ў канцы 70-х гадоў ад аднаго з прадстаўнікоў "русскоязычного населения" пытанне: "А белорусский язык у вас что — профессиональная необходимость?". На гэта чалавеку было сказана: "Родная мова!" Родная не таму, што ў свае дваццаць з лішкам гадоў запытаны не здолеў засвоіць нешта іншае. Пахваліцца, дзякуй Богу, можна не толькі "двуязычием". Трымацца родных каранёў змушае пераканaнне, што нават нязначныя змены ў характары народа непазбежна вядуць да з'іначання асяроддзя яго існавання, аказваюць уплыў на генафонд нацыі. Наступныя звёны ў трывожным ланцугу перамен праяўляюцца хваробамі маральнымі, а далей і фізічнымі.

Новы час уносіць змены ў працэсы нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі. Але новаўвядзенні не могуць не выклікаць і трывогу, бо перашкоды на шляху яшчэ нямоцнай плыні беларушчыны апошнім часам раптам пачалі расці. Вось прыклады. Вучні семнаццаці першых у Мінску беларускіх класаў, калі не лічыць 118-ю школу, пайшлі ў сёмы клас. І за столькі гадоў для іх нельга было падрыхтаваць настаўнікаў-прадметнікаў з веданнем беларускай мовы? У 184-й сталічнай школе, у прыватнасці, выкладанне гісторыі, фізікі, чарчэння, працы, замежнай мовы, фізкультуры, малявання ў адзіным беларускім класе вядзецца на рускай мове. І ці толькі ў гэтай школе дый ці толькі па названых прадметах? Кажуць, што ў некаторых універсітэтах сёлета ўсяго два-тры прадметы выкладаюцца па-беларуску. Хто са студэнтаў рызыкне дыктаваць выкладчыку мову навучання? Трэба ж памятаць пра залікі ды экзамены. А непрыкрытую радасць з нагоды магчымасці адысці ад каму-нікаму абрыдзеўшай, як відаць, беларусізацыі бачылі многія тэлеглядачы ў рэпартажы з Мінскага педуніверсітэта. Ці не становіца гэта новым накірункам дзяржаўнай палітыкі? Хто ж нас будзе паважаць пры такой інфантыльнасці?

Гаворка пра апошні для беларусаў шанц на выжыванне — духоўнае, а з ім і фізічнае — не проста інтэлігенцкае трызненне. Ёсць важкія падставы біць трывогу пра пагрозу знікнення народа з багатымі гістарычнымі і культурнымі традыцыямі. Пра недапушчэнне падобнай праявы гаварылася ў старажытнасці. Пачытайце Францішка Скарыну. У набатныя званы ўдарылі ў наш час лепшыя людзі беларускай зямлі. Успомніце "Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі" Францішка Багушэвіча, "Пагоню" Максіма Багдановіча або "Тайрай" Уладзіміра Караткевіча, многія творы паэзіі, прозы, публіцыстыкі. Але ж трывожны сігнал той адныміі не быў пачуты. Другія яго стараліся не чуць. Было нямала і такіх, хто чыніў перашкоды, каб людзі праніклiся тым неспакойным набатам. І хіба не пакаранне нам за гэту глухату ды немату пяскі Палесся, пыл Чарнобыля, імклівы разгул у грамадстве брыдот, якімі яшчэ так нядаўна савецкая прапаганда надзяляла толькі "хцівы капіталістычны свет"?!

У свеце ўсё заканамерна. Няма розніцы, ці працэсы адбываюцца ў прыродзе, ці ў грамадстве. Дзеля дасягнення павагі занадта мала выказаць абуральныя словы на газетнай паласе ці ў радыёэфіры з нагоды няўвагі да ўласнае персоны. Патрэбна большае. У народа павінна з'явіцца пачуццё гонару за сваю існасць, ён павінен набыць асабістае аблічча.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**дэпутат Мінгарсавета.**

Ларыса Языковіч

# РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

*ЯЗЫКОВІЧ Ларыса Уладзіміраўна — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдат гістарычных навук. Нарадзілася ў 1954 г. ў г. Ганцавічы Брэсцкай вобласці. Працуе над праблемамі беларускай эміграцыі, міжнароднай дзейнасці Беларусі.*



"Беларускі Гістарычны Часопіс"

Склад беларускай эміграцыі па рэлігійнай прыналежнасці вельмі неаднародны. Пераважная большасць беларускіх эмігрантаў — праваслаўныя, ёсць таксама католікі, уніяты, пратэстанты.

Пачынаючы з самых ранніх этапаў эміграцыі беларусаў, царква займала ў іх жыцці значнае месца. Яна, па сутнасці, з'яўлялася для іх першай простай і зразумелай формай сацыяльна-грамадскай арганізацыі, дапамагала падтрымліваць узаемныя сувязі і ўвогуле адыграла значную ролю ў тым, што, будучы адарванымі ад роднай зямлі, ад сваіх каранёў, беларускія эмігранты змаглі ў асноўным захаваць свае нацыянальна-культурныя традыцыі. Пры цэрквах вялася значная культурна-асветніцкая дзейнасць — ствараліся бібліятэкі, школы для дзяцей эмігрантаў, розныя гурткі, творчыя аб'яднанні і г. д. Узнікалі палітычныя групоўкі, жаночыя, маладзёжныя суполкі, якія ў сваёй дзейнасці цесна супрацоўнічалі з царквой. Друкаваліся перыядычныя выданні — газеты, часопісы, бюлетэні рэлігійнага накірунку, якія аказвалі істотны ўплыў на самасвядомасць людзей.



Па звестках эмігранцкага друку, каля 80% беларускіх эмігрантаў прытрымліваюцца праваслаўнага веравызнання.[1] Але праваслаўныя беларусы не складаюць адзінага цэлага, яны падзяляюцца на шматлікія накірункі. Частка іх далучылася да рускай праваслаўнай царквы, што ў значнай ступені спрыяла страце імі сваёй нацыянальнай свядомасці. У наш час налічваецца не менш як тры рускія праваслаўныя цэрквы, якія з большай альбо меншай актыўнасцю дзейнічаюць за межамі Расіі. Па-першае, гэта Маскоўская патрыярхія, альбо руская праваслаўная царква, больш як 120 парафій якой знаходзіцца за межамі былога СССР[2]. Дзейнічае таксама Замежны архірэйскі сінод рускай праваслаўнай царквы, у склад якога у 20—30-я гады ўваходзілі прадстаўнікі вышэйшага духавенства, якія пакінулі краіну пасля 1917 г. Зараз гэтай царквой кіруюць іх паслядоўнікі, якія спынілі свае адносіны з Маскоўскай патрыярхіяй[3]. Ад Замежнага архірэйскага сіноду аддзяліўся экзархат, які падпарадкоўваецца Візантыйскаму патрыярху. Некаторая колькасць праваслаўных беларусаў, якія знаходзяцца ў эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы, а таксама ЗША, Канадзе, Аўстраліі, належаць да юрысдыкцыі гэтых цэркваў. Акрамя таго ў ЗША дзейнічае Амерыканская праваслаўная царква, атрымаўшая ў 1970 г. аўтакефалію ад Маскоўскай патрыярхіі.

У дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, а таксама ў замежнай статыстыцы не існавала тэрміну "беларускі эмігрант". Выхадцаў з беларускіх зямель Расійскай імперыі вызначалі не этнічна, а на аснове іх веравызнання, г. зн. далучалі да рускай — як праваслаўных, альбо да польскай — як католікаў, эміграцый. Гэта ж датычыць і беларусаў, якія пасля 1921 г. эміграваліі з зямель Заходняй Беларусі. Беларускія эмігранты аж да другой сусветнай вайны заставаліся пад рэлігійным кантролем палякаў і рускіх. Гэта прывяло да таго, што ў радах нацыянальна свядомых прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, як і сярод часткі беларусаў на Бацькаўшчыне, расло імкненне да канфесійнай самастойнасці беларускай царквы ў яе нацыянальным абліччы, як праваслаўнай, так і каталіцкай. Былі ў 20—30-я гады намаганні ў накірунку беларусізацыі праваслаўнай царквы на Беларусі, але яны скончыліся няўдачай.

Польскі ўрад дабіўся ўтварэння праваслаўнай незалежнай ад Масквы царквы ў Польшчы. Аўтакефалію Польскай праваслаўнай царквы ў 1924 г. прызнаў Візантыйскі патрыярх[4]. Вернікамі гэтай царквы былі ў асноўным беларусы і ўкраінцы, але іх у Польшчы лічылі "праваслаўнымі палякамі". Гэтая царква адыгрывала адмоўную ролю ў жыцці этнічных беларусаў, служыла іх паланізацыі. Пасля другой сусветнай вайны епіскапат і частка вернікаў царквы, у тым ліку беларусаў, апынуліся ў эміграцыі. У Польшчы ў 1949 г. была ўтворана Польская праваслаўная царква, якая прызнала над сабой уладу Маскоўскага патрыярха[5]. Сёння значная колькасць беларусаў, якія пражываюць у гэтай краіне, асабліва на сваіх этнічных землях у Беластоцкім ваяводстве і Падляшшы, з'яўляюцца вернікамі гэтай царквы.

Спроба ўтварыць аўтакефальную праваслаўную царкву на Беларусі адбылася падчас нямецкай акупацыі. Ведаючы негатыўныя адносіны Маскоўскай патрыярхіі да ідэі незалежнай беларускай царквы і такую ж пазіцыю партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва СССР, беларускія рэлігійныя дзеячы выкарысталі акупацыю Беларусі немцамі і часовую адсутнасць там савецкай улады для таго, каб абвясціць незалежнасць праваслаўнай царквы на Беларусі, палічыўшы Берлін меншым злом, чым Маскву ці Варшаву. У 1942 г. у Мінску адбыўся царкоўны сабор, які абвясціў аб аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы і зацвердзіў яе статут[6]. За час вайны на Беларусі было заснавана 6 епархій Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ). Былі хіратанізаваны (узведзены ў сан) 5 новых епіскапаў і створаны Свяшчэнны сінод БАПЦ на чале з мітрапалітам Панцеляймонам. У склад сіноду ўваходзілі епіскапы Бенедыкт, Філафей, Апанас, Грыгор, Павел, Сцяпан[7]. Але праіснавала БАПЦ на Беларусі вельмі кароткі час. Летам 1944 г. у выніку перамогі Савецкай Арміі БАПЦ фактычна перастала існаваць як самастойная адзінка. Кіраўніцтва царквы на чале з мітрапалітам Панцеляймонам, невялікай колькасцю духавенства і вернікаў выехала на эміграцыю ў Германію. Там вышэйшая іерархія БАПЦ, па сутнасці, адмовілася ад ідэі незалежнай беларускай праваслаўнай царквы і ў 1946 г. далучылася да рускай замежнай праваслаўнай царквы, узначальваемай мітрапалітам Анастасіем[8].

Аднак частка вернікаў-беларусаў выказалася за аднаўленне БАПЦ ва ўмовах эміграцыі. У 1948 г. у Канстанцы адбыўся царкоўны сабор, на якім было прынята рашэнне аб аднаўленні царквы[9]. Апекуном яе на некаторы час стаў архіепіскап Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Сергій, таму што сваіх епіскапаў у БАПЦ не засталося. У канцы 1949 г. Сергій быў абраны кіраўніком БАПЦ, а таксама быў хіратанізаваны епіскап БАПЦ Васіль[10]. Склаўся епіскапат царквы, які пачаў працу па ўмацаванні пазіцый БАПЦ сярод беларусаў на эміграцыі. У пачатку 50-х гадоў кіраўніцтва царквы разам з агульнай хваляй беларускай эміграцыі перамясцілася з Еўропы ў ЗША, Канаду і Аўстралію. У 1950 г. архіепіскап Сергій пераехаў на сталае месца жыхарства ў Аўстралію. Епіскап Васіль стала пасяліўся ў ЗША. Прыходы БАПЦ з'явіліся і дзейнічаюць па наш час у краінах Еўропы, Амерыкі, у Аўстраліі. Душпастырскую дзейнасць сярод вернікаў вялі святары М. Шчурко, А. Кунцэвіч, А. Казлоўскі, А. Смаршчок, А. Крыт, Х. Данілюк, С. Вайтэнка, М. Мацукевіч, К. Савіцкі, Я. Якіменка і інш. Прыходы царквы ў замежных краінах прызнаны дзяржаўнымі ўладамі гэтых краін, зарэгістраваны афіцыйна і маюць права выконваць усе хрысціянскія абрады. Святары БАПЦ вядуць богаслужэнні на беларускай мове, задавальняючы патрэбу вернікаў у выконванні рэлігійных абрадаў. Царква займаецца дабрачыннай дзейнасцю, ахвяруе сродкі на выданне рэлігійнай, а таксама грамадска-палітычнай, навуковай, мастацкай літаратуры. Напрыклад, у наш час выданне беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Клііўлендзе — часопіс "Полацак" — друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае маці БАПЦ у Клііўлендзе. У 1992 г. царква ахвяравала часопісу 10 тыс. амерыканскіх долараў.

Пасля смерці архіепіскапа Сергія ў 1972 г. главою царквы стаў мітрапаліт Андрэй.

У 1983 г. у БАПЦ адбыўся раскол. Пасля смерці мітрапаліта Андрэя частка прыходаў царквы абрала сваім кіраўніком мітрапаліта Мікалая. Аднак другая частка, не згодная з гэтым, прызнала сваім першаіерархам архіепіскапа Ізяслава. Такім чынам, у БАПЦ зараз існуюць дзве плыні — на чале з мітрапалітам Мікалаем і мітрапалітам Ізяславам[11].

Паміж прадстаўнікамі гэтых плыняў існуюць надзвычай складаныя адносіны. Дзейнасць царквы, асабліва ў апошнія гады, патрабуе далейшага вывучэння. Не ўсё ў ёй адназначна. На царкоўных справах адлюстроўваюцца палітычныя супярэчнасці, якія існуюць да нашых дзён унутры беларускай эміграцыі, напрыклад, паміж прыхільнікамі Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Цэнтральнай Рады і г.д.

У апошнія гады ў БАПЦ з'явіліся пэўныя магчымасці для наладжвання кантактаў з праваслаўнай царквой на Беларусі. Аб гэтым сведчыць візіт у Беларусь на пачатку 1992 г. мітрапаліта БАПЦ Мікалая[12]. Гэта вельмі важны крок на шляху да ўзаемаразумення паміж дзвюма цэрквамі. Раней такія кантакты былі немагчымы. Мітрапаліт Мікалай меў сустрэчы з вучонымі, культурнымі



(Заканчэньне. Пачатак на 5-ай стар.)

1. Працягваць у рэспубліцы навукова-метадычную працу па ўдакладненню і ўдасканаленню правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама яе граматычнай і лексічнай нармалізацыі і стабілізацыі і па культуры маўлення, для чаго мэтазгодна, як гэта і прадугледжана Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 1994 г., утварыць пастаянна дзеючы Рэспубліканскі навукова-каардынацыйны Савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі з належнымі рэкамендацыямі і кантрольнымі паўнамоцтвамі ў адпаведнасці з Законам "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

2. Акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь да канца 1995 года падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (з дадаткам правілаў беларускай арфаэпіі), дзе былі б улічаны вынікі работы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы і іх грамадскага абмеркавання.

3. Да прыняцця новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", дзеля захавання стабільнасці беларускай літаратурнай мовы, ухілення ад існуючай зараз правапіснай неаднастайнасці ў сродках масавай інфармацыі строга прытрымлівацца "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959).

Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны
Старшыня Камісіі
Ніл ГІЛЕВІЧ

ЗВЯЗДА

## НА БЕЛАРУСІ СВОЙ КАРДЫНАЛ

**У гэтыя дні мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімір Свёнтэк атрымлівае тэлеграмы з віншаваннямі з многіх краін свету, адказвае на шматлікія тэлефонныя званкі. Арцыбіскуп Казімір Свёнтэк стаў кардыналам.**

30 кастрычніка ў 12 гадзін дня па сярэднееўрапейскаму часу папа рымскі Ян Павел II з акна сваёй рэзідэнцыі ў Ватыкане асабіста прачытаў спіс 30 новых членаў калегіі кардыналаў Рымска-каталіцкага касцёла. Сярод іх і прозвішча К. Свёнтэка. Афіцыйная цырымонія прызнання вышэйшага духоўнага звання ў касцёле адбудзецца 26 лістапада ў Ватыкане.

Як зазначыў у інтэрв'ю «Звяздзе» Казімір Свёнтэк, тым самым Ватыкан не проста надаў вышэйшае духоўнае званне кіраўніку беларускага касцёла, але ўзняў статус і самога Беларускага каталіцкага касцёла: беларускі касцёл заслужыў, каб ім кіраваў не арцыбіскуп, а кардынал. Гэта ёсць прызнанне беларускага касцёла і Беларусі як дзяржавы з боку Ватыкана, адзначыў К. Свёнтэк.

Да гэтага варта дадаць, што афіцыйную рэгістрацыю Мітраполіі Мінска-Магілёўскай беларускія ўлады адцягвалі 3,5 года і ажыццявілі яе зусім нядаўна — 19 кастрычніка г. г.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

"ЗВЯЗДА"

Словы – свой кардынал – у гэтым выпадку павінны вызначацца двукосьсем. Калі-б Мітрапаліт Філарэт сказаў некалькі сказаў па-беларуску – і ён-бы стаў сваім?

За сваё трэба змагацца, а мы яшчэ ўсё ў рабах ходзім...

дзеячамі Беларусі, прадстаўнікамі праваслаўнай царквы, удзельнічаў у богаслужэннях, меў гутаркі з Патрыяршым экзархам Беларусі Філарэтам. У ходзе сустрэч было вызначана, што ні кананічных, ні дагматычных разыходжанняў паміж БАПЦ і БПЦ няма. Таму пры ўмовах аўтакефалізацыі праваслаўнай царквы ў Беларусі, выкарыстання ёю беларускай мовы ў богаслужэннях існуе ў далейшым магчымасць паяднання паміж Беларускай праваслаўнай царквой на Бацькаўшчыне і Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквой на эміграцыі. Пры ўзаемным жаданні абедзве царквы ў канчатковым выніку маглі б пераадолець існуючае паміж імі раз'яднанне.

Акрамя БАПЦ у ЗША зараз існуе Беларуская праваслаўная царква Паўночнай Амерыкі. Пачатак яе існавання быў закладзены ў Германіі ў першыя гады пасля другой сусветнай вайны. У далейшым сумесна з некаторай часткай агульнай хвалі беларускай эміграцыі яна замацавалася ў Злучаных Штатах Амерыкі. Гэтая царква ўваходзіць у юрысдыкцыю Канстанцінопальскага патрыярха. У ЗША ёсць шэраг яе парафій, у якіх працуюць святары-беларусы. Але гэтая царква не мае свайго беларускага вышэйшага кіраўніцтва. Таму яе апякаюць епіскапы-грэкі. Вернікі Беларускай праваслаўнай царквы Паўночнай Амерыкі ў наш час дамагаюцца ўсталявання свайго беларускага епіскапата[13].

Важную ролю ў духоўным жыцці нашых суродзічаў за мяжой адыгралі каталіцкія і грэка-каталіцкія рэлігійныя дзеячы — беларусы па паходжанні, якія імкнуліся аб'яднаць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння і хрысціянскія каштоўнасці. Беларуская рэлігійная літаратура на эміграцыі працяглы час існавала амаль выключна дзякуючы дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства.

На працягу стагоддзяў касцёл дапамагаў паланізаваць беларусаў. Тое ж было і ў Заходняй Беларусі, якая апынулася ў складзе Польшчы пасля Рыжскага Дагавору 1921 г. Але тут паступова вялася барацьба за беларускасць касцёла, магчымасць карыстацца ў набажэнствах беларускай мовай. Польскія ўлады ставіліся да гэтага адмоўна. Справы даходзілі нават да арыштаў ксяндзоў-беларусаў, як, напрыклад, М. Пятроўскага, К. Стэповіча, В. Гадлеўскага і інш. Ксяндзоў-беларусаў пераводзілі ў парафіі на польскія тэрыторыі, альбо прымушалі выязджаць за мяжу. Такім чынам, многія з іх апынуліся ў 20—30-я гады на эміграцыі.

Аб стаўленні польскіх улад у міжваенны перыяд да нацыянальна свядомых беларускіх рэлігійных дзеячаў яскрава сведчыць факт разгону ў 1938 г. кляштару айцоў-марыянаў у Друі, а таксама закрыццё ў тым жа годзе Віленскага беларускага дому айцоў-марыянаў[14]. Праз гэтыя рэлігійныя асяродкі прайшлі такія вядомыя беларускія каталіцкія дзеячы як А. Цікота, Ф. Абрантовіч, Я. Германовіч, Я. Дашута, Ч. Сіповіч і інш. У далейшым многія беларускія марыяны апынуліся ў краінах Заходняй Еўропы, а таксама ў ЗША.

Беларускія каталіцкія святары аказалі значны ўплыў на культуру Заходняй Беларусі. У шэрагу іх імёнаў — Янка Быліна (Іван Семашкевіч), Вінцук Адважны (Язэп Германовіч), Адам Станкевіч, Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч) і інш[15]. Сваёй рэлігійнай, а таксама патрыятычнай, культурна-асветніцкай, літаратурнай дзейнасцю яны ўздзейнічалі на простых вернікаў-беларусаў, будзілі ў іх нацыянальную свядомасць. Гэтыя імёны былі таксама добра вядомы сярод беларускіх эмігрантаў.

Важным этапам у гісторыі беларускай эміграцыі, у тым ліку і той, што адбывалася па рэлігійных прычынах, стала другая сусветная вайна. Вядома, што некаторыя беларускія рэлігійныя дзеячы як праваслаўнага, так і каталіцкага веравызнання імкнуліся выкарыстаць часовую нямецкую акупацыю Беларусі ў сваіх мэтах. Некаторыя з іх мелі зносіны з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Але нацысты трымалі іх пад сваім кантролем, выкарыстоўвалі ў сваіх палітычных інтарэсах. Варожа адносіліся акупацыйныя ўлады да тых, хто адмаўляўся праводзіць іх палітыку. Прыкладам таму служыць лёс беларускага каталіцкага ксяндза В. Гадлеўскага, які ў канцы 1942 г. быў арыштаваны і забіты гестапа ў Мінску. Увогуле ў 1942—1944 гг. немцы расстралялі некаторых каталіцкіх святароў, у тым ліку і беларусаў, падазраючы іх у канспіратыўнай дзейнасці на карысць Польшчы[16].

Стаўка некаторых беларускіх палітычных і рэлігійных дзеячаў на тое, што фашысцкая Германія паспрыяе развіццю самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага і рэлігійнага жыцця Беларусі не апраўдалася. Значная колькасць іх пасля другой сусветнай вайны апынулася ў эміграцыі. Працяглы час савецкія ўлады абвінавачвалі іх у калабарацыянізме. Але трэба браць пад увагу і тое, што рэпрэсіі 30-х гадоў падштурхнулі некаторых беларускіх нацыянальных, культурных, рэлігійных дзеячаў таго часу да супрацоўніцтва з фашыстамі, да імкнення выкарыстаць іх у сваіх мэтах.

**(Працяг будзе.).**

# «ГОЛАС ДУШЫ»

"Добры Вечар"

**Ганна КУЗАЎКОВА.**

У сярэдзіне верасня парафіяне касцёла святога Сымона і святой Алены святкавалі гадавіну выхаду ў эфір радыёпраграмы «Голас душы», у якой упершыню з моманту існавання радыё на Беларусі пачалі гучаць рэгулярныя каталіцкія набажэнствы на нашай роднай мове. Ініцыятарам і галоўным натхняльнікам гэтых радыёперадач, што праходзяць кожную суботу, нядзелю і ў святочныя дні (а другой гадзіне дня па другой праграме), з'яўляецца ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк. Разам са сваім пробашчам, не шкадуючы сіл і часу, працуюць юныя парафіяне Чырвонага касцёла: развучваюць і потым запісваюць у студыі літургічныя тэксты, старадаўнія і сучасныя хрысціянскія песні. Цікавасць слухачоў таксама выклікалі святочныя праграмы, з запісамі песень Галіны Смоляк — музычнага кіраўніка касцёла св.Сымона і св.Алены.

Трэба заўважыць, што, хаця арганізацыя вышэйназваных перадач і зыходзіла ад каталіцкага святара, тым не менш накірунак яе — вельмі экуменічны і агульнахрысціянскі. Прапаведзі ксяндза Уладзіслава, у якіх заўжды гучаць любоў і павага да прадстаўнікоў усіх канфесій, вабяць да сябе самых розных людзей, пацвярджаючы словы Хрыста: «Любоў шмат грахоў пакрывае!»

Дбайнасць аб трывогах сённяшняга часу прывяла да думкі пачаць рыхтаваць сумесныя перадачы з Беларускім дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля» і іншымі дабрачыннымі арганізацыямі.

Доказам значнасці радыёпраграм «Голас душы» з'яўляюцца шматлікія пісьмы, тэлефонныя званкі ў рэдакцыю і ў касцёл, пытанні, якія задае моладзь. Слухачы шчыра дзякавалі за магчымасць сустрэчы з Божым словам, якую прадаставіла перадача «Голас душы» хворым, інвалідам, матулям з малымі дзецьмі і ўсім тым, хто не мае храмаў паблізу жылля ў далёкіх вёсках і гарадах. Многія прызнаваліся, што, пачуўшы набажэнства на беларускай мове па радыё, упершыню задумаліся над глыбінёй евангельскіх тэкстаў. Усё больш і больш людзі пачынаюць разумець важнасць і неабходнасць таго струменя спакою і цярплівасці, які дае нам Божае слова ў нервовым рытме сучаснага жыцця. Куды толькі ні кідаецца чалавек у пошуках шляхоў праўды і дасканаласці — а прыходзіць у выніку да адзінай высновы: з Бога выйшлі і да Бога вернемся. Нават тыя ўсе, хто на словах Бога не прызнае, усё адно на практыцы і шукаюць Божага, і карыстаюцца Божым...

Як ні круці, але любы атэіст ахвотней возьме за жонку жанчыну, выхаваную ў пэўных хрысціянскіх традыцыях вернасці, спакою, дбайнай гаспадарлівасці і сціпласці, чым пракураную «эмансіпэ» з разбэшчанымі манерамі. Якія толькі педагагічныя спосабы не выдумлялі прыхільнікі бязбожных ідэй, намагаючыся выхаваць духоўна здаровых нашчадкаў: і Цімура з ягонай камандай, і зборы металалому з макулатурай... А ў выніку выгадавалі такую колькасць бяздушных эгаістаў і цынікаў, якой не адшукаеш, мо, у ніводнай іншай краіне свету!

Апошнія некалькі гадоў стала крыху лягчэй прабівацца ў эфір і перыёдыку прапаведнікам і святарам. Але побач з гэтым, як снежны ком, імкліва расце лавіна рэкламнага смецця. Штогадзіну на тэлеэкране, перарываючы шматлікія фільмы жахаў і нудныя тэлесерыялы, выпеставаная дзяўчына какетліва разявае рот, каб з'есці мала каму даступную шакаладку «Дав»... Па радыё вішчаць, трашчаць, грукацяць модныя электрамузычныя геніі, схіляючы ўсіх да думкі, што няма на свеце нічога больш важнага за секс...

Што можам супрацьпаставіць усяму гэтаму бруду?! Шмат хто ўжо са слухачоў прыйшоў да думкі, што пры сённяшнім стане спраў трэба, каб перадача «Голас душы» гучала не па другой, а па першай праграме.

Дай Божа, каб хапіла сіл у ксяндза Уладзіслава і яго аднадумцаў працягваць гэтую нялёгкую, але вельмі патрэбную справу. Дай Божа, каб не змоўк «Голас душы»!

## ПРОСЬБА – ЗВАРОТ ДА СУРОДЗІЧАЎ:

*Каса Рады БНР* у папярэдніх гадох заусёды праводзіла ЗБОР дабраахвотных ахвяраў на "Дар Сакавіка" ў месяцы Сакавіку. У 1995-м годзе збор ахвяраў будзе праводзіцца ў студзені і лютым на *"ДАР БЕЛАРУСІ"*. Як ніколі перад гэтым, Беларусь патрабуе нашае дапамогі! Просім перасылаць пасільныя ахвяры на адрас:

Mr. Vitaly Kazan
183 Lawn Ave.
Stamford, CT 06902

# "АЛЬБУЦКАЯ КРЫНІЧКА" ГЛЫБЕЕ

Нацыянальна-культурнае адраджэнне спадчыны роднай Бацькаўшчыны мае вялікае ідэйна-выхаваўчае значэнне ў сістэме фарміравання маладога пакалення. Добра гэта разумеюць у аддзеле адукацыі Стаўбцоўскага раёна. Такі напрамак закладзены ў аснову выкладання многіх прадметаў. Аб некаторых дасягненнях у гэтай справе педагагічнай калектываў школ, дзіцячых садоў расказвае намеснік загадчыка аддзела адукацыі райвыканкома Галіна Іосіфаўна Грэкава:

— Навучальна-выхаваўчыя планы распрацоўваем так, каб, ажыццяўляючы іх, педагогі і школьнікі мелі магчымасць зазірнуць у стагоддзі, каб лепш запомніліся яны ў суадносінах з нашым днём, каб мы лепш зразумелі нашых папярэднікаў, народныя традыцыі, жыццё і подзвіг у імя Бацькаўшчыны. Пастаянную прапіску ў раёне атрымала правядзенне святаў "Калядкі", "Масленіца", "Багач", "Гуканне вясны", "Купалле" і інш.

Традыцыйным стаў конкурс "Юныя таленты Стаўбцоўшчыны". Шэсць гадоў запар праводзіцца свята дзіцячай творчасці "Альбуцкая крынічка", хораша апісаная ў паэме нашага земляка, народнага песняра Якуба Коласа "Новая зямля".

Нядаўна падвялі вынікі раённага конкурсу сачыненняў "Гэта нельга забыць". На яго паступілі работы вучняў 14 школ раёна. Пераможцай конкурсу стала Тацццяна Ярашэвіч — цяпер ужо выпускніца Навасвержанскай сярэдняй школы. Яе верш "Успамін пра жывое" пазначаны арыгінальнасцю, самастойнасцю думак. Другое месца прысуджана выпускніцы Шашкоўскай школы Ганне Дзям"янка за нарыс "Памяць і боль" і вучаніцы 11-га класа Старасвержанскай школы Таццяне Амельчыц — за верш "Водгук вайны". Трэцяе месца падзялілі васьмікласнікі Валеры Шмат з Налібакаў і Аксана Вараненка з Любкаўшчыны. Усім пераможцам уручаны грашовыя прэміі.



## ЗВАРОТ ДА БЫЛЫХ СТУДЭНТАЎ МАРБУРГУ І ЛЮВЭНУ!

На мяне выпаў прыемны, але адначасна цяжкі ды адказны абавязак напісаць успаміны аб нашых студэнтах у Марбургу і Лювэне. Многія былыя студэнты гэтых унівэрсытэтаў прыслалі ўжо мне свае заўвагі ды папаўненьні. Шмат каго я ня змог знайсьці... Таму вось гэтым шляхам зьвяртаюся да ўсіх былых студэнтаў дапамагчы мне. Хацелася-б падаць гісторыю сямейнага, прафэсыйнага ды грамадзкага жыцьця кожнага абсальвэнта. Гэта, бязумоўна, дасьць паўнейшы вобраз беларускага студэнцтва на эміграцыі...

Таксама зьвяртаюся да былых студэнтаў Мюнхэну, Мадрыту, Парыжу ды магчыма іншых унівэрсытэтаў папоўніць мае інфармацыі.

Веру, што ўсе былыя студэнты адгукнуцца, каб папоўніць гэты цікавы дакумант з жыцьця нашае дыяспары.

*Б. Рагуля*

*Мой адрас:* Dr. B. Ragula
579 Willowdale Ave.
London, Ont. Canada N5X-1J2
Tel. 519-6672264 Office
FAX 519-6736578

# ТАК ВЫНІШЧАЛАСЯ ВЕРА

"Настаўніцкая Газэта"

Савецкая дзяржава з першых дзён свайго існавання па-варожаму адносілася не столькі да зместу рэлігійных поглядаў, колькі да самога інстытута Царквы, якая з'яўляецца арганізацыяй, здольнай канкураваць з ВКП/б па "ідэалагічным уздзеянні на масы". Эмацыянальныя перажыванні вернікаў на час царкоўнай службы, прыгажосць храмаў, урачыстасць рэлігійных сьвятаў, спевы царкоўнага хору для пераважнай большасці грамадзян сялянскай краіны з'яўляліся адзінай крыніцай эстэтычнага выхавання. Малітвы, звернутыя да Бога, давалі чалавеку ўпэўненасць у сваіх сілах, былі перашкодай у падаўленні і знішчэнні творчага пачатку асобы.

Распаўсюджванне масавага бязбожжа было мэтай не толькі партыйных ідэолагаў. Барацьба з Царквой стала дзяржаўнай палітыкай. У ёй можна выдзеліць тры асноўныя напрамкі: барацьба з эканамічнай магутнасцю Царквы, знішчэнне Царквы як грамадскай сілы, фізічнае вынішчэнне духавенства, разбурэнне храмаў. Пачынаючы з кастрычніка 1917 г., уздзеянне на Царкву ажыццяўлялася ва ўсіх трох напрамках, але ў асобныя перыяды пераважалі тыя або іншыя: у 1917 — 1922 гадах асноўная ўвага надавалася ліквідацыі эканамічнай магутнасці Царквы, пазбаўленню яе асноўных матэрыяльных каштоўнасцяў; у 1923 — 1929 гадах праз спецыяльныя структуры, грамадскія арганізацыі дзяржавы зрабіла спробы расколу духавенства найбольш уплывовых хрысціянскіх канфесій, праводзілася публічная дыскрэдытацыя царквы, забаранялася дзейнасць рэлігійных арганізацый. У 1930 — 1939 гадах ажыццяўлялася масавае закрыццё храмаў, прыцягненне святароў усіх канфесій да крымінальнай адказнасці. Пачатак вайны СССР і Германіі прыпыніў працэс знішчэння духавенства "як класа". Ён узнавіўся ў 1945 — 1953 гадах і быў прыпынены са смерцю І.Сталіна. Храмы ж разбуралі і надалей. Асабліва шмат — у 60-я гады.

## "ПАЗБЯГАЦЬ УСЯКАЙ НЕРАШУЧАСЦІ І ПАЛАВІНЧАТАСЦІ"

Пазбаўленне Царквы эканамічнай асновы пачалося са славутага Дэкрэта аб зямлі, у якім указвалася, што манастырская і царкоўная зямля "адчужаецца бясплатна, абарачаецца ва ўсенародны здабытак і пераходзіць у карыстанне ўсіх працоўных на ёй". 20 студзеня 1918 г. прыняты Дэкрэт "Аб свабодзе сумлення, царкоўных і рэлігійных таварыствах", у якім абвяшчалася аддзяленне Царквы ад дзяржавы і школы ад Царквы. Уся маёмасць царкоўных і рэлігійных таварыстваў аб'яўлялася народным здабыткам.

У адпаведнасці з савецкім заканадаўствам толькі ў праваслаўнай царквы было канфіскавана 827.500 дзесяцін манастырскай зямлі з усім інвентаром і жывёлай, нацыяналізаваны 84 манастырскія заводы, 704 гасцініцы, 1112 даходных дамоў, 435 малочных фермаў, 602 жывёлагадоўчыя двары, 311 пчальнікоў.

Царква страціла і іншыя крыніцы даходаў. Рэлігійныя абшчыны былі пазбаўлены права юрыдычнай асобы і ад свайго імя не маглі выпускаць друкаваныя выданні. І хоць на першым часе вернікі знаходзілі выйсце са становішча — рэлігійная літаратура друкавалася ад імя асобных грамадзян — працягвалася гэта нядоўга. Дзяржаўная манаполія на паперу, уведзеная ў 1918 годзе, адразу вырашыла ўсе пытанні.

Важнай крыніцай паступленняў у царкоўную казну быў даход ад паломніцтва вернікаў да аб'ектаў рэлігійнага пакланення. У жніўні 1920 г. НК Юстыцыі РСФСР разаслаў выканкамам мясцовых Саветаў цыркуляр аб ліквідацыі Святых мошчаў. У ім рэкамендавалася пазбягаць "усякай нерашучасці і палавінчатасці пры правядзенні сваіх мерапрыемстваў". У выпадку выяўлення шарлатанства, фальсіфікацый, накіраваных да эксплуатацыі цемры... аддзелы юстыцыі ўзбуджаюць судовае праследаванне супраць усіх вінаватых асобаў".

21 жніўня 1920 г. газета "Звезда" пачала серыю публікацый пад агульнай назвай "Цемрашалы" — аб судовым працэсе над іераманахам Дасіфеем і ігуменняй Серафімай, якія абаранялі ад знішчэння Святыя мошчы Віленскіх мучанікаў — нацыянальную беларускую рэліквію. За "рэлігійны шантаж і манархічную агітацыю" 75-гадовая Серафіма была змешчана ў інвалідны дом, больш малады — "працаздольны" — Дасіфей прыгавораны да пяці гадоў "працоўных канцэнтрацыйных лагераў".

27 снежня 1921 г. УЦВК РСФСР прыняў пастанову, у якой падкрэслівалася "наяўнасць каласальных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца ў цэрквах і манастырах як гісторыка-мастацкага, так і чыста матэрыяльнага значэння". Царкоўныя каштоўнасці падзяляліся на тры групы: "маёмасць, якая мае гісторыка-мастацкае значэнне" (яна падлягала "выключнаму вядзенню" Аддзела па справах музеяў і аховы помнікаў мастацтва і даўніны НК Асветы), "маёмасць матэрыяльнай каштоўнасці" (яна перадавалася ў Дзяржаўнае Сховішча Каштоўнасцяў РСФСР); "маёмасць штодзённага ўжытку" (яна заставалася ў храме). Пры ліквідацыі храмаў мясцовай уладзе забаранялася прадаваць або перадаваць маёмасць вернікам. Канфіскаваныя каштоўнасці сартаваліся, з іх вымаліся дарагія камені, упакоўваліся і перадаваліся ў Дзяржсховішча. Культура беларускага народа панесла вялікую страту. Недапушчальнай лічылася ліквідацыя каштоўнасцяў, створаных толькі да 1725 г. Знішчэнне ж рэчаў перыяду 1725—1835 гадоў лічылася магчымым, прадметы больш позняга часу "ліквідоўваліся" усе, "за выключэннем тых, што мелі высокамастацкае і бытавое значэнне". Нават калі на гэтых прадметах знаходзіліся больш старажытныя часткі — вянцы з абразоў, рэшткі страдаўняй басмы, скані, фініфці і да т.п. — яны таксама падлягалі знішчэнню.

Працэс канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў дасягнуў кульмінацыі ў 1922 г. 23 студзеня ўсім старшыням губчэка была разаслана звышсакрэтная тэлеграма, у якой прапаноўвалася "шляхам надзейнага інфармавання" ўстанавіць наяўнасць царкоўных каштоўнасцяў, высветліць "як аднясецца насельніцтва да канфіскацыі каштоўнасцяў царкоўных і манастырскіх". Дзяржава рыхтавалася правесці аперацыю, якая праследавала дзве мэты: абагачэнне дзяржаўнай казны залатым запасам і пазбаўленне Царквы матэрыяльных сродкаў. Афіцыйна для пачатку аперацыі была выкарыстана другая прычына — голад, які ахапіў чарназёмныя губерні Расіі.

Канфіскацыя выклікала рэзкі пратэст як сярод вышэйшага духавенства, так і сярод веруючых. 28 лютага 1922 г. Патрыярх Ціхан звярнуўся з пасланнем, у якім асудзіў маючую адбыцца акцыю. 15 сакавіка, у час канфіскацыі каштоўнасцяў у Шуі, вернікі аказалі супраціўленне міліцыі і ўзводу чырвонаармейцаў, частку з якіх раззброілі. "З кулямётаў і вінтовак часцямі ЧАП (часці асобага прызначэння — аўт.) і чырвонаармейцамі 146 палка натоўп быў разагнаны. У выніку 5 забітых і 15 параненых зарэгістравана бальніцай. У 11 з паловай гадзін 15 сакавіка на гэтай жа падставе спыніліся дзве фабрыкі. Да вечара ў горадзе ўстаноўлен парадак. Настрой абывацеляў і часткі рабочых падаўлены, але не ўзбуджаны", — дакладваў сакратар губернскага камітэта РКП(б) у Маскву.

Дэкрэт аб аддзяленні Царквы ад дзяржавы і школы ад Царквы быў пацверджаны СНК БССР 17 снежня 1921 г. У вырашэнні "царкоўнага пытання" Мінск стараўся ісці ў нагу з Масквой: 1 сакавіка на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК БССР пад старшынствам А.Чарвякова было прынята рашэнне аб далучэнні Беларусі да экспрапрыяцыі царкоўных каштоўнасцей для дапамогі галадаючым, згодна з выдадзенымі УЦВК пастановамі і інструкцыямі.

Экспрапрыяцыя ператварылася ў народную трагедыю. Аб тым, як яна ажыццяўлялася на Беларусі, можна атрымаць уяўленне з Даклада старшыні выканкама г.Мазыра ад 30 красавіка 1922 г.: "22 гэтага месяца ў 23 гадзіны было атрымана старшынёй выканкама паведамленне ад упаўнаважанага павятовай камісіі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў, што сяляне сяла Буйновіч і хутароў, што мяжуюць з ім, аказалі супраціўленне пры канфіскацыі каштоўнасцяў...

Тады начальнікам Палітбюро (так называлася мясцовае аддзяленне ДПУ — аўт.)было прапанавана камандзіру атрада спешыць некалькі кавалерыстаў і сумесна з імі фізічнай сілай убраць хаця б тых, хто быў на цвінтары, што і было зроблена. Натоўп без адзінага ўдару з боку кавалерыстаў быў выдалены з агароджы царквы, але калі прыйшлі астатнія члены камісіі з саветам вернікаў і сьвяшчэннікам, натоўп зноў пачаў падступаць і ў некаторых у руках ужо з'явіліся калы, якімі некаторым з чырвонаармейцаў былі нанесены ўдары і толькі пасля гэтага намі было дазволена кавалерыстам пусціць у ход нагайкі, галоўным чынам да асабліва заўзятых абаронцаў каштоўнасцяў. І праўда, гэтая мера дапамагла і каштоўнасці былі канфіскаваны. Хоць у той час мы разумелі, што палітычна недапушчальна прымяняць спосаб царскай жандармерыі — збіванне сялян нагайкамі, але інакш выйсця не было: або нагайка або страляць, дык мы вырашылі прымяніць спачатку першае, а потым ужо другое..." Гуманізм у разуменні кіраўніцтва савецкай дзяржавы выглядаў спецыфічна — каб выратаваць ад голаду адных сялян, можна забіваць другіх.

20 чэрвеня 1922 г. ЦБ КПБ (б) заслухала справаздачы сакратароў раённых партыйных арганізацый аб праведзенай рабоце. Мазырчане адрапартавалі: "Канфіскацыя каштоўнасцяў прайшла гладка. У адной толькі воласці было супраціўленне на чале з папом. Поп прыгавораны да пакарання смерцю".

Аднак самае агіднае, што гэтая канфіскацыя не была актам міласэрнасці ў адносінах да галадаючых. 13 сакавіка 1922 г. з Верхняга Валачка да Патрыярха Ціхана з'явілася дэлегацыя вернікаў прасіць блаславення на замену царкоўных каштоўнасцяў хлебам для галадаючых. Дэлегацыя была накіравана Патрыярхам да Калініна. Не застаўшы Старшыню УЦВК, дэлегаты звярнуліся ў Камісію дапамогі галадаючым, дзе ім растлумачылі, што патрэбен не хлеб, а золата. У сувязі з гэтым у Сінодзе было ўзнята пытанне аб тым, што дэкрэтам аб канфіскацыі каштоўнасцяў прадугледжваецца не дапамога галадаючым, а іншыя мэты, аб чым царква павінна аб'явіць народу.

Пытанне аб замене царкоўных каштоўнасцяў хлебам, іх выкупе вернікамі разглядалася таксама на пасяджэнні сакрэтнай камісіі па правядзенні канфіскацыі, якую ўзначальваў Л.Троцкі. 14 сакавіка 1922 г. камісія вырашыла: "прызнаць, што выкуп царкоўнага начыння хлебам і прадуктамі харчавання ні ў якім выпадку не дапускаецца, у выключных выпадках дапускаецца абмен на раўнацэнны тавар — каштоўнасці, пры ўмове, што гэта не было сабрана з сялян і прыхажан".

У Маскве ў красавіку 1922 г. была распаўсюджана лістоўка "Куды ідзе царкоўнае золата". У ёй прыводзіліся вытрымкі з інтэрв'ю доктара Гувера, кіраўніка Амерыканскай арганізацыі дапамогі галадаючым (АРА), дадзенага 8 сакавіка 1922 г. французскім журналістам. Доктар Гувер указаў, што амерыканская адміністрацыя даставіла ў порты Чорнага мора звыш 21 мільёна пудоў збожжа, з якіх савецкая адміністрацыя вывезла толькі каля 1,5 мільёна пудоў. Навошта патрэбна царкоўнае золата, лістоўка тлумачыла словамі загадчыцы Галоўмузея, аўтара інструкцыі аб канфіскацыі музейных каштоўнасцей Наталлі Троцкай (жонкі Троцкага): "Трэба стварыць новы рэвалюцыйны фонд, бо толькі золатам мы сёння зможам дабіцца прызнання нашай улады". Тое, што ў выніку ўзмацнення савецкай дзяржавы ганьбіліся пачуцці народа, яго́ныя традыцыі, бальшавікоў не турбавала. Да канца 20-х гадоў эканамічная незалежнасць Царквы была знішчана. Духавенства было пастаўлена ў прамую залежнасць ад прынашэнняў вернікаў. Выхаваннем масавага бязбожжа, меркавалася, пазбавіць яго і гэтай крыніцы. Разам з тым царква заставалася ў рэспубліцы самай масавай і ўплывовай грамадскай арганізацыяй: на 1 студзеня 1930 г. у БССР было 1756 рэлігійных аб'яднанняў, з іх 1013 праваслаўных, 111 каталіцкіх, 547 іудзейскіх, 85 сектанцкіх. Савецкі народ не хацеў выракацца Бога.

## АД ТРОХ ГАДОЎ ТУРМЫ ДА РАССТРЭЛУ

Для таго, каб якасна і на высокім узроўні правесці "ідэйна-бытавое перавыхаванне велізарнага чалавечага матэрыялу" для "пабудовы ў краіне і ва ўсім свеце вялікага будынка сацыялізму", цалкам падпарадкаваць масы савецкай ідэі, неабходна было вызваліць іх ад "шкоднага ўплыву Царквы". Так пісалася ў тагачасных партыйных выданнях. Савецкая дзяржава пачала гэтую работу з першых гадоў свайго існавання.

У артыкуле 13 першай Савецкай Канстытуцыі (1919 г.) за ўсімі грамадзянамі замацоўвалася свабода рэлігійнай і антырэлігійнай прапаганды. Аднак у таталітарнай дзяржаве, якой вельмі хутка стала краіна Саветаў, канстытуцыйныя палажэнні заўсёды заставаліся лозунгам, пустой дэкларацыяй. Узаемаадносіны Царквы і дзяржавы рэгуляваліся не імі, а рашэннямі партыйных органаў, сакрэтнымі цыркулярамі наркаматаў юстыцыі і унутраных спраў.

У Крымінальным кодэксе РСФСР 1920 г. былі ўстаноўлены меры пакарання — ад 3-х гадоў турэмнага зняволення да расстрэлу "За

Мастак і гісторыя

# У гэтых кнігах ажыла эпоха, праўду аб якой так доўга хавалі ад беларусаў

Народная газета

**Трылогія Генрыха Далідовіча "Гаспадар-камень" вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

Да нядаўняга часу ў школьным падручніку па гісторыі Беларусі панавала тэндэнцыйнасць: скажам, кожнае наша маладое пакаленне, знаёмячыся з падзеямі 1917 года ў царскай Расіі, атрымлівала ў пэўных межах інфармацыю пра рэвалюцыю і пераварот у Петраградзе, пра "бліскучыя перамогі Леніна і бальшавікоў", а вось пра тое, **што** і **як** канкрэтна адбывалася **тут**, у Мінску, ва ўсім тагачасным Паўночна-Заходнім краі, амаль нічога не ўведвала. Праўда, ужо студэнтаў гуманітарных ВНУ прасвятлялі крыху больш, шырэй, але тыя звесткі былі вельмі дазіраваныя і апрацаваныя ў адпаведным духу: да слова, дзейнасць многіх наезных бальшавікоў тыпу Фрунзе, Мяснікова, Ландара, Кнорына і іншых, якія здолелі ў нас своечасова асядлаць рэвалюцыйны рух, падавалася толькі светлымі фарбамі, старанна затушоўвалася іхняя ярасная антыбеларуская барацьба, а дзейнасць многіх лепшых сыноў беларускага народа ў справе пад'ёму нацыянальнай свядомасці, аднаўлення беларускай дзяржаўнасці падавалася, у сваю чаргу, як "буржуазно-помещичья", "проимпериалистическая" — адпаведна варожая беларускаму народу, і гэтыя дзеячы, гвалтоўна знішчаныя ў савецкі час, як след нерэабілітаваныя яшчэ і цяпер. Такая тэндэнцыя дасягала свайго: ні адно наша пакаленне добра не ведала не толькі сваёй далёкай, але і новай гісторыі, было паралізавана ідэалагічнымі клішэ і выхалашчана ад нацыянальнай ідэі, свядома раствaралася ў імперскім страўніку ў вобразе абязлічаных савецікусаў...

Паколькі небяспека не магла не абудзіць у народа здаровы інстынкт самазахавання нацыі, а ў найбольш свядомай кагорты нашых дзеячаў прагу дзейнасці па справе ратавання і забеспячэння сваёй будучыні, то яшчэ да так званай перабудовы ў нас пачала спакваля ажыўляцца тэндэнцыя, супрацьлеглая памянёнай вышэй, з гарачым жаданнем дабіцца праўды і справядлівасці. Зусім невыпадкова тады пачалі хадзіць па руках забароненыя ранейшыя публікацыі і новыя, пазбаўленыя маны і фальсіфікацый рукапісы па гісторыі Беларусі, літаральна ўспыхнула гісторыка-патрыятычная тэма ў нашым мастацтве і г.д.

У сучаснай беларускай літаратуры адным з першых звярнуўся да мастацкага паняцця беларускай нацыянальнай ідэі, да перыпетый утварэння БНР і БССР пісьменнік Генрых Далідовіч, апублікаваўшы за апошнія дзесяць гадоў трылогію "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя" і "Свой дом".

Сваё эпічнае палатно ён пачынае з адлюстравання дарэвалюцыйнага мінулага нашага краю. Ужо ў першых раздзелах першага рамана ён задаў своеасаблівы тон — спакойна і маляўніча, з яркімі мастацкімі дэталямі і каларытнай мовай апісвае побыт нашых бацькоў і прадзедаў.

Паволі, старонка за старонкай, мы ўсё глыбей і глыбей пазнаём лад жыцця і вёскі, і горада тых часоў, а на фоне драматычнай любоўнай гісторыі маладых герояў нас усё больш і больш захоплівае сацыяльна-грамадскае, у прыватнасці водгулле рэвалюцыйных перамен у Петраградзе і непасрэднае апісанне віру палітычных страсцей у Мінску. Дагэтуль чытач уяўляў, што тут тады ўсё было ціха і спакойна, мінчане з надзеяй успрынялі Лютаўскую рэвалюцыю, потым асудзілі Часовы ўрад і з захапленнем прывіталі пераварот у кастрычніку. Ажно, выходзіць, не. Гэтаму прысвечаны амаль увесь раман "Пабуджаныя". Тут на багатым фактычным матэрыяле ўважлівае даследаванне падзей, рэзкага, непрымірымага канфлікту паміж мяснікоўцамі і беларускімі нацыянальнымі дзеячамі наконт лёсу Беларусі з лютага па снежань 1917 года.

Твор заканчваецца яркай і трагічнай сцэнай разгону мяснікоўцамі снежаньскага Усебеларускага з'езда, дзе тыя з блаславення бальшавіцкага цэнтра вырашылі "закрыть белорусский вопрос" штыкамі.

У рамане "Свой дом" — карціны акупацыі Беларусі кайзераўскімі войскамі, утварэнне спачатку БНР, а пасля БССР. Тыя падзеі, канфлікты, барацьба — даўнія ўжо, але нельга не чытаць пра іх з хваляваннем. Па-першае, яскрава адчуваеш тагачасныя напружанасць, праўду і хлусню, светлыя думкі і крывадушнасць, а па-другое, многае з таго сугучна сённяшняму дню, калі зноў, на новым этапе, вырашаецца лёс Беларусі, калі, прыкрываючыся "найвышэйшымі мэтамі", у сіле новыя дэнацыяналізаваныя, а то і варожыя да ўсяго беларускага, мяснікові... Бясспрэчна, і сёння, калі ўжо ёсць большы доступ да архіваў, калі можна ўсіх нацыянальных дзеячаў называць сваімі імёнамі, Генрых Далідовіч тым не менш цікавы грунтоўным шматфарбным апісаннем, пранікнёным адлюстраваннем тых складаных, часамі супярэчлівых падзей. Тое, што пісьменнік аддае належнае як тым, хто ўтвараў БНР, так і тым, хто на савецкай платформе дабіўся БССР (сярод апошніх былі і нацыянальна свядомыя бальшавікі, якія шчыра паверылі Леніну, партыі і звязвалі з імі шчаслівы лёс свайго краю, за што пазней таксама, як і бэнэраўцы, паплаціліся жыццём), мы павінны паставіць аўтару толькі ў заслугу. І што ён у бесцэнзурных умовах не кінуўся ў іншую крайнасць, а праявіў разважлівую аб'ектыўнасць. Прыемна дадаць, што аўтар, даказваючы, што не можа быць Беларусі без беларускага, нідзе і ні ў чым не дазволіў сабе нетактоўнасці да іншых народаў альбо да тых, хто побач з беларусамі насяляе нашу рэспубліку. Рэзкі ён толькі да тых, хто свядома, засланяючыся шчытом маны і фальшы, прыніжае гонар старажытнага народа, выступае супраць яго нага прызнання.

Калі Генрых Далідовіч атрымае Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь за трылогію "Гаспадар-камень", то гэта будзе належнай ацэнкай працы таленавітага, сумленнага празаіка і прынцыповага грамадскага дзеяча, якім мы яго ведаем па Саюзу пісьменнікаў і па шматлікіх яркіх публіцыстычных выступленнях у нашай перыёдыцы, па радыё і тэлебачанні.

**Мікола ЕРМАЛОВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

# «ПРАБЛЕМЫ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ ПАТРАБУЮЦЬ ШТОДЗЁННАЙ УВАГІ»

Намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Віктар Іосіфавіч Ганчар прыняў дэлегацыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беластока ў саставе ганаровага старшыні прафесара А. Баршчэўскага, старшыні галоўнай управы Я. Сычэўскага, сакратара В. Ласкевіч.

Віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь падкрэсліў, што стасункі новага ўрада з беларусамі суседняй дзяржавы ў прыватнасці, як і з усёй дыяспарай увогуле, будуць будавацца ў першую чаргу на грунце дэпалітызацыі, дэмакратычнага стаўлення і прагматызму. «Мы пераканаліся, — заўважыў ён, — што праблемы замежных суайчыннікаў патрабуюць штодзённай увагі».

Са свайго боку кіраўнікі БГКТ, самай масавай арганізацыі нашых суродзічаў у Польшчы, пазнаёмілі Віктара Ганчара з грамадскай і культурнай дзейнасцю таварыства. Былі закрануты таксама найбольш складаныя моманты агульнага інтарэсу і супрацоўніцтва, сярод якіх: захады па завяршэнню будаўніцтва Беларускага музея ў г. Гайнаўцы, кола пытанняў, што тычацца студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны, якія навучаюцца ў нашай рэспубліцы па лініі грамадскіх арганізацый, і г. д.

Госці запрасілі намесніка кіраўніка Кабінета Міністраў на верасnёўскія ўгачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю беларускага ліцэя ў г. Бельску-Падляскім (Польшча), і папрасілі яго перадаць запрашэнне з той жа нагоды Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку.

Запрашэнні былі з удзячнасцю прыняты.

Па выніках сустрэчы адпаведным міністэрствам і ведамствам рэспублікі накіраваны канкрэтныя даручэнні.

**Белінфарм.**

выкарыстанне рэлігійных забабонаў мас з мэтай звяржэння рабоча-сялянскай улады або ўзбуджэння да супраціўлення яе законам і пастановам". Святар, які закранаў у пропаведзі праблемы "сацыялістычнага" быцця, дапамагаў прыхажанам напісаць скаргу на самаўпраўства мясцовай улады або падпісваў такую скаргу, ужо з'яўляўся ворагам і падлягаў крымінальнаму праследаванню. Духавенства ў заканадаўчым парадку адхілялася ад удзелу ў вырашэнні сацыяльных праблем.

Традыцыйная для народа павага да свяшчэннаслужыцеляў змянялася афіцыйнай дыскрымінацыяй духавенства. Усе служыцелі культу пазбаўляліся выбарчых правоў, нароўні з усімі яны прыцягваліся да працоўнай павіннасці, маглі працаваць толькі ў павятовых і гарадскіх установах на пасадах не вышэй 16 разраду тарыфных ставак савецкіх работнікаў. Свяшчэннаслужыцелям забаранялася служба ў аддзелах народнай адукацыі, юстыцыі, земляробства, рабоча-сялянскай інспекцыі, упраўлення прадуктаў харчавання. Іх дзеці не мелі права атрымаць вышэйшую адукацыю.

З кастрычніка 1922 г. уся інфармацыя па духавенству канцэнтравалася ў сакрэтным аддзеле Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення. Духавенства разглядалася як класавы вораг. За ім устанаўліваўся апаратыўны нагляд.

Каб выкараніць веру на месцах, пазбавіць духавенства сацыяльнай апоры, "па просьбах працоўных" пачынаецца масавае закрыццё малельных дамоў. Пры гэтым подпісы ў падтрымку закрыцця бралі ў малалетніх, камсамольцаў, за закрыццё сінагогі збіралі подпісы ў беларусаў, за закрыццё праваслаўных храмаў — у яўрэяў і католікаў. Да 1929 г. толькі ў Аршанскай акрузе з 37 праваслаўных цэркваў была закрыта 21, з 27 сінагогаў — 13. "Сама тэхніка закрыцця насіла часам яўна здзеклівы характар над рэлігійнымі пачуццямі веруючых. Адзначаны выпадкі расцягвання па дамах рэчаў з царквы і іншых культавых дамоў (Мінская акруга). У адным з сёл Мінскай акругі настаўнікам-актывістам з царкоўных варотаў зроблена будка для сабакі. У шэрагу выпадкаў культавыя прадметы ламаліся, ірваліся і г.д.", — канстатаваў у Дакладной запісцы "Аб скрыўленнях, дапушчаных у царкоўных пытаннях па Беларусі" памочнік начальніка сакрэтнага аддзела Паўнамоцнага Прадстаўніцтва Аб'яднанага Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення па БССР В.Акаловіч.

У 1928 —29 гадах забараняецца дзейнасць рэлігійных арганізацый, Царкве забараняецца займацца дабрачыннасцю. Казанні ў храмах можна было рабіць толькі на рэлігійныя тэмы.

З пачуццямі вернікаў пры канцы 20-х гадоў ужо мала хто лічыўся. Таталітарная савецкая дзяржава, уступаючы ў пару свайго росквіту, знішчала ачагі арганізаванага іншадумства.



**Таццяна ПРОЦЬКА,**
кандыдат філасофскіх навук,
старшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі Акадэміі навук.

# АДНА АКРУГА – АДЗІН ДЭПУТАТ

*У чацвер Вярхоўны Савет прагаласаваў за мажарытарную выбарчую сістэму. Мы звярнуліся да некалькіх дэпутатаў з просьбай адказаць на пытанне, як яны ставяцца да гэтага рашэння.*

**Міхаіл Казючыц, намеснік старшыні Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву:**

— Асабіста я галасаваў за мажарытарную сістэму. Вядома, сутнасць яе ў тым, што ад адной выбарчай акругі будзе выбраны адзін дэпутат. Кандыдатаў можа быць прапанавана некалькі і партыямі, і грамадскімі арганізацыямі, працоўнымі навучальнымі калектывамі, воінскімі часцямі. Я думаю, што пры такім падыходзе не будзе асфальтавых мінскіх выбараў, бо ўсе асноўныя палітычныя партыі пераважна сканцэнтраваны ў Мінску.

**Лявон Баршчэўскі (БНФ):**

— Увогуле для Беларускага народнага фронту, калі б ён думаў толькі пра сябе, не мае прынцыповага значэння, якая будзе выбарчая сістэма. Бо БНФ усё роўна зможа мець дастаткова моцную фракцыю ў будучым парламенце пры любым варыянце. Але, калі думаць пра інтарэсы ўсёй дзяржавы, то вельмі важна, каб у Вярхоўным Савеце можна было б сфарміраваць нейкую большасць. Сённяшні Вярхоўны Савет, як бы яго ні клялі і ганілі, мае цвёрдую большасць. Дзякуючы гэтаму прыняты сотні законаў — добрых ці дрэнных. Калі ж здарыцца так, што прыйдзе з паўтары сотні незалежных дэпутатаў, а астатнія будуць уваходзіць у нейкія буйныя фракцыі, то ўявіце сабе, як цяжка будзе прымаць законы ці ўвогуле вырашаць якіясьці пытанні. Я думаю, што памыляецца прэзідэнт, калі думае, што яму выгадна мець слабы Вярхоўны Савет (менавіта Аляксандр Лукашэнка вельмі жорстка настойваў на мажарытарнай сістэме). Магчыма, ён разлічваў, што на нейкім этапе парламент дапаможа прэзідэнту ўзяць частку адказнасці на сябе замест яго. Але ж Вярхоўны Савет будзе бяздзейны і ўся адказнасць ляжа на прэзідэнта.

**Лявон Дзейка (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада):**

— Наша фракцыя падтрымлівала выбарчую сістэму, пры якой бы палова дэпутатаў выбіралася па выбарчых акругах, а палова — па партыйных спісах. Аднак Вярхоўны Савет зноў жа дзейнічаў у накірунку непавагі прынятай ім жа самім Канстытуцыі. Ён і зараз адмовіў у магчымасці грамадскім аб'яднанням (а іх у нас на Беларусі даволі шмат) вылучаць кандыдатаў у Вярхоўны Савет нават па тэрытарыяльных акругах.

Мне здаецца, калі выбары адбудуцца вясной наступнага года, то жыццё паказвае: перамогуць людзі пад тымі лозунгамі, пад якімі ішоў да выбараў сённяшні прэзідэнт. І хаця яны актуальныя, але барацьба з карупцыяй засталася толькі ў дэкларацыі, навядзенне парадку таксама. Я баюся, што пры мажарытарнай сістэме ў кожнай акрузе перамогуць людзі, якія больш ці менш паспяхова выкарыстаюць вопыт спадара Лукашэнкі ў час яго прэзідэнцкай кампаніі. Гэта тым больш верагодна ў нашы часы, калі насельніцтва знаходзіцца ў вельмі прыгнечаным стане, блізкім да адчаю. Значна змяншаюцца шанцы прыйсці ў будучы Вярхоўны Савет у тых кандыдатаў, якія мысляць канцэптуальна па-дзяржаўнаму.

*"Чыр. Зьмена"*

**Вольга ШАЎКО.**

# БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬСКАЙ ТУРМЕ

Мяркуючы па ўсім, некаторыя законанепаслухмяныя грамадзяне Беларусі аблюбавалі польскія турэмныя камеры. Каля 200 беларусаў «адпачываюць» сёння ў турмах і следчых ізалятарах суседняй дзяржавы. Абсалютная большасць іх затрымана польскай паліцыяй за разбой, і ім, згодна з артыкулам 210 (параграф 2) польскага крымінальнага заканадаўства, пагражае доўгае турэмнае зняволенне, аж да пакарання смерцю. Дарэчы, у апошні час пачасціліся выпадкі арышту беларусаў за перагон праз тэрыторыю краіны крадзеных аўтамабіляў і аўтамабіляў па фальшывых дакументах.

## Анатоль АСТАПЕНКА:

# "Мы, нацыяналісты, — партыя дзяржаўная"

Народная газета

**Гутаркай з лідэрам Беларускай нацыянальнай партыі Анатолем Астапенкам мы адкрываем новую рубрыку, дзе хочам расказаць пра сённяшні дзень палітычных партый нашай краіны вуснамі іх лідэраў. Ведама, яны вельмі зацікаўлены атрымаць такую трыбуну, як "Народная газета", калі ўсё менш часу застаецца да наступных парламенцкіх выбараў. Але зацікаўлены ў больш блізкім знаёмстве з імі і мы, бо толькі такім чынам зможам пазнаёміць нашых чытачоў з партыйнай палітрай Беларусі.**

### Даведка "Народнай газеты"

*Анатоль АСТАПЕНКА. Год нараджэння — 1947-ы.*

***Прафесійная дзейнасць:** скончыўшы БДУ, вучыўся ў аспірантуры, зараз старшы выкладчык тэхналагічнага універсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук. **Партыйная дзейнасць:** у КПСС ніколі не быў; працуючы ў БДУ, стварыў першую суполку БНФ, удзельнік устаноўчага з'езда БНФ, сустаршыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі да яе расколу, цяпер — старшыня БНП.*

**— Паважаны спадар Астапенка! Дазвольце пачаць з такога досыць канкрэтнага пытання: навошта асабіста вы ўдзельнічаеце ў палітычнай дзейнасці?**

— Вельмі многія з нас абыякава ставяцца да таго, што з намі адбываецца. Грамадства дэградзіруе. Спыніць гэты працэс магчыма толькі палітычнымі захадамі — за гэта і бярэцца наша партыя.

**— У чым асаблівасць вашых прапаноў выйсця з крызісу?**

— Наша галоўная ідэя — нацыянальная, нацыяналізм у станоўчым яго сэнсе і ідэя нацыянальнай велічы Беларусі. Нашаму народу яшчэ належыць усвядоміць сваю нацыянальную веліч і магутнасць, як гэта было ў часы Вялікага княства Літоўскага. Тыя традыцыі павінны аднавіцца, а Беларусь павінна стаць адным з буйнейшых асяродкаў еўрапейскай палітыкі.

**— Здаецца, мала хто супраць адраджэння нацыянальнай велічы...**

— Але хто ставіць гэтую мэту як прыярытэтную? Розныя дэмакратычныя партыі выступаюць у першую чаргу за прыярытэт правоў чалавека, фронт — за парытэт гэтых прынцыпаў, мы ж за тое, каб на чале ўсяго былі нацыянальныя інтарэсы. Беларускай нацыі трэба ствараць спрыяльныя ўмовы для адраджэння і развіцця, і зрабіць гэта можна толькі на тэрыторыі незалежнай дзяржавы Беларусь. Не ў Расіі, не на Украіне ці ў іншым кутку свету, дзе перш за ўсё клапоцяцца аб сваім, а толькі тут.

**— Ці часта ваш нацыяналізм параўноўваюць з фашызмам?**

— Ніхто нас не параўноўвае. Нацызм і нацыяналізм — гэта нават процілеглыя рэчы. Мы за тое, каб перад законам усе былі роўныя, нягледзячы на нацыянальнасць.

**— Увявім, што БНП прыйшла да ўлады. З чаго вы пачняце? Прымусіце ўсіх гаварыць па-беларуску?**

— Мы добра ўяўляем, што зрабіць гэта немагчыма. Ды і не трэба. Першае — трэба зрабіць чалавека гаспадаром, бо гаспадар працуе на сябе больш эфектыўна. Што ж датычыцца мовы — калі да яе будзе належнае, як патрабуе Канстытуцыя, стаўленне прэзідэнта, іншых афіцыйных асоб з верху да нізу, то загавораць і грамадзяне. Але галоўнае, каб чалавек адчуў сябе гаспадаром на сваёй зямлі, ганарыўся сваёй дзяржавай, вось тады яму і родная мова спатрэбіцца.

**— Нешта не бачна, каб нашы прадпрымальнікі кінуліся ў плынь беларусізацыі...**

— Бо пакуль што сярод іх большасць тых, хто жыве турботамі аднаго тыдня. Але ёсць і адваротныя прыклады — вазьміце "Дайнову". У яе ўжо сталая рэпутацыя моцнай фірмы, якая дбае пра Беларусь. Распрацоўваючы нашу дзяржаўную стратэгію, мы за тое, каб падтрымліваць прадпрымальніцтва, якое падымае нашы нацыянальныя вытворчасці, рамёствы.

**— Гаршкі выраблясць, лапці плесці — так? Ці магчыма ўзняць эканоміку на сучасны ўзровень шляхам развіцця рамёстваў?**

— Рамёствы — гэта таксама нядрэнна, але галоўнае — падтрымліваць у прамысловасці, сельскай гаспадарцы вытворчасці, якія больш характэрныя для нашай краіны. Тады мы знойдзем і сваё месца на сусветным рынку.

**— Як вы ставіцеся да БНФ?**

— Станоўча, бо БНФ першым прапанаваў шлях рэфармавання грамадства. Але, на мой погляд, у фронце захаваліся рысы, якія былі ўласцівы яшчэ бальшавікам — маецца на ўвазе стаўленне да іншадумцаў. Дарэчы, ужо адразу пасля першага ўстаноўчага з'езда БНФ у Вільні, калі мы вярталіся ў Мінск, узнікла ідэя засыродзіцца менавіта на нацыянальнай ідэі і стварыць адпаведную партыю. Так узнікла НДПБ — Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, якая потым падзялілася і ў выніку ўтварылася БНП.

**— Чаму вы ўсё дзеліцеся? Што не можаце падзяліць?**

— Аб'ядноўваюцца вакол ідэі, а працуюць з канкрэтнымі людзьмі. Спрэчкі аб метадах, аб шляхах, чалавечы фактар — усё гэта прыводзіць да дзялення.

**— БНП таксама чакае такі лёс?**

— Мы гэта прадбачым і таму заклалі ў статут магчымасць фракцый. Але пакуль што іх няма.

**— Як ставяцца да вас дзяржаўныя чыноўнікі?**

— Нейтральна. Але мы лічым, што мы — дзяржаўная партыя, бо адлюстроўваем ідэю нацыянальна-дзяржаўнай еднасці, якая патрэбна ўсім — і левым, і правым, і прэзідэнту, і ўраду. Таму мы не стаім у апазіцыі да ўлады, а, наадварот, прапануем супрацоўніцтва: свой інтэлект, праграмы, ідэі і распрацоўкі.

**— А ці не з'яўляецца БНП адной з тых партый, якія параўноўваюць з карлікам з вялікай галавой?**

— Сапраўды, у нас большасць сяброў у Мінску і сярод іх шмат вучоных, выкладчыкаў, людзей высокаадукаваных. Але мы маем і рэгіянальныя арганізацыі ў Гродне, Віцебску, Гомелі, Брэсце, Наваполацку, Бабруйску, Жлобіне, Лепелі. Не сумняваюся, што бар'ер з 500 членаў, неабходных для перарэгістрацыі ў адпаведнасці з новым законам, мы здолеем узяць.

**— На якія сродкі вы існуеце?**

— Пакуль што толькі на ўзносы ў памеры 1 працэнта ад месячнага заробку. Для выбарчай кампаніі будзем шукаць спонсараў.

**— Пад якім лозунгам вы прымеце ўдзел у выбарах?**

— Пад лозунгам умацнення дзяржаўнасці Беларусі. Я таксама, як усе, размаўляю парасійску, не цікавіўся нашай гісторыяй, спадчынай, не меў асаблівых надзей на будучыню. Зараз усе мае надзеі звязаны менавіта з Беларуссю. Я прадбачу, што ідэя нацыянальнага адраджэння нас усіх аб'яднае і дапаможа выйсці з сённяшняга ганебнага становішча.

**Гутарыў Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**

## Яшчэ адно таварыства дружбы

**У міністэрстве юстыцыі Украіны зарэгістравана таварыства "Украіна—Беларусь". Мэта яго дзейнасці — садзейнічанне развіццю традыцыйных сувязей паміж Украінай і Беларуссю, духоўнае зберажэнне і ўзбагачэнне культур абодвух народаў. Узначаліў таварыства акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны Ігар Пахадняк. У размове з карэспандэнтам Белінфарма ён заявіў, што да дзейнасці ў таварыстве будуць прыцягвацца ўсе грамадскія арганізацыі і фізічныя асобы, зацікаўленыя ў культурных, а таксама эканамічных сувязях з брацкай рэспублікай.**

### Антыбеларускі бунт

Бацькі першакласнікаў Сярэдняй школы н-р 35 горада Брэста адмовіліся весці сваіх дзяцей на заняткі беларускамоўнага выкладання прадметаў. Пасля трохдзённых „канікулаў" дзеці усё ж селі за парты. Гэтаму папярэднічалі няпростыя размовы бацькоў з прадстаўнікамі асветных улад горада і раёна. Урэшце было вырашана, як таго і патрабуе закон, прадоўжыць навучанне на беларускай мове. Самым непрымірымым бацькам прапанавана перавесці сваіх дзяцей у рускамоўныя класы ў суседнюю школу. Толькі некаторыя бацькі перавялі дзяцей у СШ н-р 30, астатнія, больш чым 200 малышоў, прыйшлі ў свае прывычныя класы і прадоўжылі заняткі.

Просіцца ўсіх людзей добрае волі памятаць, што ў сярэдняй школе № 35 у Берасьці (Брэст) бацькі ваяўніча настаўляюць сваіх дзяцей супроць усяго беларускага...



# Квартплата расце, заробак зніжаецца. Дакуль?

Народная газета

Мікалай АЧЫЖА

Учора ў другой палове дня адбылося пасяджэнне эканамічнага савета пры Старшыні Вярхоўнага Савета. Ва ўступнай прамове Мечыслаў Грыб адзначыў, што значная колькасць палажэнняў прэзідэнцкай антыкрызіснай праграмы і прапаноў членаў эканамічнага савета супадаюць.

Але ёсць і разыходжанні, што, аднак, не азначае супрацьстаяння, канфрантацыі, наадварот, трэба шукаць выйсце разам.

У Вярхоўным Савеце ад членаў эканамічнага савета чакаюць прапаноў па заканадаўчаму забеспячэнню эканамічных рэформ.

Мечыслаў Грыб назваў адну характэрную лічбу: працэнт заробку ад сабекошту прадукцыі знізіўся да 8 працэнтаў. Гэта ў той час, калі нармальным павінен лічыцца паказчык у 50—60 і вышэй працэнтаў. Толькі ў такім выпадку чалавек зможа ў поўнай меры аплачваць камунальныя паслугі, уносіць плату за кватэру і г.д.

У нас як аб рэальнасці загаварылі аб павышэнні кватрплаты. А заробак тым часам зніжаецца.

Гэта толькі адно з балючых надзённых пытанняў.

У дыскусіі ўзяў удзел прафесар Андрэй Тур, які гаварыў аб неабходнасці заканадаўча акрэсліць такія з'явы, як манаполія, канкурэнцыя, прапрацаваць праблему датацый, субсідый.

Прафесар Мікалай Заяц аргументаваў, у прыватнасці, неабходнасць зніжэння падатку на прыбаўленую вартасць, пераліччаў галіны вытворчасці, якім неабходна надаць статус прыярытэтных.

Акадэмік Яўген Бабосаў спасылаўся на вопыт такіх розных асоб, як Рузвельт і Гітлер (што ёсць, тое ёсць). У часы крызісу яны ў масавым парадку прыцягвалі рабочых да агульнакарысных праграм, напрыклад да будаўніцтва дарог.

І ў наш час неабходна стымуляваць прадпрыемствы да стварэння дадатковых рабочых месц, падтрымліваць у гэтым напрамку мясцовыя органы ўлады.

Па звестках Я.Бабосава, суадносіны паміж зарплатай ніжэйшага тэхнічнага персаналу (скажам, лабаранта) і вучонага вышэйшай кваліфікацыі складаюць прапорцыю 1:2. Стымулаў да напісання доктарскай дысертацыі фактычна няма. Акадэмік раіць прыняць дзяржаўную праграму рэгулявання даходаў.

Як пра вельмі неабходную меру гаварыў Бабосаў і пра абавязковае дэкларванне ўсімі дзяржаўнымі чыноўнікамі сваіх даходаў.



Злучаныя Штаты Амерыкі, штат Мічыган — такі зваротны адрас значыцца на гэтых дзесяці ёмістых кардонных скрынках. Усе яны былі нядаўна дастаўлены ў Стаўбцоўскую раённую бальніцу спецыяльна для хірургічнага аддзялення. Што ў іх? Медыцынскія інструменты, перавязачны матэрыял, лекавыя прэпараты, аперацыйная бялізна. Усё гэта даслаў раённым медыкам былы ўраджэнец Мікалаеўшчыны, добра вядомы ў беларускіх эміграцыйных колах культурны дзеяч Мікола Прускі.

*НА ЗДЫМКУ:* урачы райбальніцы прымаюць гуманітарную дапамогу.

*Фота Васіля ЗЯНЬКО.*

"Мінская Праўда" 12 лістапада 1994 г.

*А вось што піша Стаўпцоўская раённая газэта "Прамень" за 19-га кастрычніка 1994 г.*

*Гуманітарная дапамога*

### У Стоўпцы з-за акіяна

Злучаныя штаты Амэрыкі, штат Мічыган — такі зваротны адрас значыцца на гэтых дзесяці ёмістых кардонных скрынках. Усе яны былі нядаўна дастаўлены ў раённую бальніцу спецыяльна для хірургічнага аддзялення. Што ў іх? Самыя звычайныя для амэрыканскіх грамадзян мэдыцынскія інструманты, перавязачны матэрыял, лекавыя прэпараты, апэрацыйная бялізна. Усё гэта даслаў стаўпцоўскім мэдыкам з-за акіяна наш зямляк, ураджэнец Мікалаеўшчыны, добра знаны ў беларускіх эміграцыйных колах культурны дзеяч Мікола Прускі. Варта заначыць, што наш суайчыньнік перадае на сваю радзіму гуманітарны дар ужо ў другі раз...

# Каго рыхтуем: партнёраў ці "перабежчыкаў"?

"Настаўніцкая Газэта"

Тры апошнія гады мне даводзіцца мець справу з паездкамі ў Польшчу, якія звязаны з вучобай на курсах польскай мовы ў Любліне — горадзе, дзе месціцца сядзіба фундатара дапамогі польскім школам на Усходзе імя Ганевіча. Менавіта гэтая арганізацыя разам з Настаўніцкім інстытутам паланістыкі і арганізоўваюць вось такія курсы, на якія прыязджаюць настаўнікі польскай мовы з гэтак званага "усходу": Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Малдовы, Расіі, Казахстана і Узбекістана. Што адразу кідаецца ў вочы на гэтых курсах, дык гэта тое, што амаль палова ўсіх курсантаў прыязджае з Беларусі — краіны, дзе ўсяго 10 мільёнаў насельніцтва. Другі "цікавы" факт: паміж сабою гэтыя выкладчыкі "чамусьці" не размаўляюць па-беларуску ці па-польску, а ... па-руску! Як быццам бы яны прыехалі з Расіі. Асабліва ігнаруюць беларускую мову курсанты з заходніх абласцей Беларусі — Брэсцкай і Гарадзенскай. Есць ненавіснікі беларускай мовы і з Віцебскай: настаўніца пані Валянціна (не буду называць яе прозвішча, але калі яна чытае газету, няхай задумаецца над сваімі паводзінамі ў Любліне). Калі я даведаўся пры знаёмстве з ёю, што яна з Беларусі, і звярнуўся да яе па-беларуску, кінула мне рэзка у твар, што яна "полька, не разумее мову беларусаў, лічыць яе грубай і прынцыпова на ёй не размаўляе!". Можаце ўявіць маё становішча пасля такой "заявы" кабеты, якая жыве ў звычайным райцэнтры ў правінцыі.

Безумоўна, не я адзін заўважыў гэты "парадокс" у паводзінах настаўнікаў з Беларусі. Заўважылі гэта і мае калегі па "камандзе" ўкраінскай, мае новыя знаёмыя з Літвы, Латвіі і Малдовы. Пані Юлія Цыбульская з Кішынёва ў размове са мной выказала такую думку: "Як могуць такія настаўнікі працаваць у дзяржаўных школах краіны, мову якой яны ігнаруюць?!" Мне хацелася так і дабавіць да гэтага: і не ведаюць якой, і, што яшчэ горш, і не збіраюцца яе вывучыць і загаварыць!..

Безумоўна, узяўся я напісаць ліст у "Настаўніцкую газету" не для таго, каб сказаць, якімі манкуртамі ў Беларусі з'яўляюцца выкладчыкі польскай мовы, бо гэта ж самае можна будзе сказаць і пра настаўнікаў іншых прадметаў: рускай мовы, іншых замежных моў, матэматыкі і г.д. І ў той самы час ёсць сапраўдныя настаўнікі-патрыёты ў Беларусі, якія і мову беларускую ведаюць, і карыстаюцца ёю ў сваёй рабоце. Дарэчы, з адным такім, спадаром Янам Талпыгам з Віцебска, мне пашчасціла спаткацца ў Любліне, за што я быў вельмі ўдзячны лёсу — хоць адна родная душа знайшлася, з якою можна было размаўляць на роднай мове... Але гэта — кропля ў моры, бо разам з Янам у беларускай групе было больш за 50 настаўнікаў. Удумайцеся ў гэта, шаноўныя спадары!

А зараз пра другі бок справы. Беларусь — незалежная і суверэнная дзяржава, у якой дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская мова. А калі так, то ўсе дзяржаўныя служачыя павінны валодаць гэтай мовай, карыстацца ёю ў сваёй прафесійнай дзейнасці. На прыкладзе ж настаўнікаў польскай мовы што мае беларуская дзяржава? Людзей, якія служаць інтарэсам суседняй дзяржавы — Польшчы. Вяртаючыся з курсаў, яны з галавой кідаюцца праводзіць палітыку "паланізацыі" падрастаючага пакалення. Я не маю нічога супраць таго, каб палякі ці беларусы ў Беларусі валодалі польскай мовай, я магу гэта толькі вітаць, бо сам з'яўляюся зараз настаўнікам дзвюх замежных моў ва ўкраінскай школе: рускай і польскай. Але тое, што даводзіцца чуць ад выкладчыкаўпалякаў на такіх вось курсах, асабіста мяне прымушае задумацца: а куды ж скіраваны зараз інтарэсы польскай дзяржавы?! Адказ з усяго адзін — на той самы "усход", або, як палякі гавораць і пішуць — "на кшэсы всходне", маючы на ўвазе вялікую тэрыторыю, якая праходзіць па Беларусі, Літве, Украіне... Польскі шавінізм адраджаецца шпаркімі крокамі, і праваднікамі і прапаведнікамі ідэй польскага імперскага шавінізму якраз становімся міжволі і мы, настаўнікі польскай мовы, якім убіваюцца ў галовы падчас курсаў гэтыя самыя ідэі. На першы погляд, што можа быць дрэннага ў вершыку "Кто ты естэсь?", які змешчаны на аркушы паперы, што нам раздавалі на апошніх, чэрвеньскіх курсах гэтага года ў Любліне? А там жа змешчаны і іншыя, так сказаць, суперпатрыятычныя вершы польскіх паэтаў: аб польскай мове, пра польскага белага арла і г.д., і да т.п. Уся розніца вось у чым: для вучняў польскай школы ў Польшчы гэтыя вершы павінны быць завучаны напамяць, бо гэта іх Бацькаўшчына апяваецца ў гэтых вершах. А чаму навучацца маленькія жыхары Беларусі па гэтах вершах? Толькі ўдумайцеся ў тэкст памянёнага ўжо верша "Кто ты естэсь?":

Хто ты ёсць? Паляк малы, Які герб твой? Арол белы!..

Не цытую далей, бо і так зразумела, што ў школах Беларусі такія "вершы" (хай сабе і на ўроках польскай мовы) не павінны гучаць. Для грамадзян Беларусі любой нацыянальнасці ў нашай краіне ёсць толькі адзін герб — Дзяржаўны Герб Рэспублікі Беларусь "Пагоня"! Таму я лічу, што навучанне польскай мове павінна весціся толькі па падручніках польскай мовы, якія выпушчаны выдавецтвам "Народная асвета" і зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь! Вось у гэтым уся і бяда, што гэтымі падручнікамі мала хто і карыстаецца. Ва ўсялякім разе з тых настаўнікаў, каго я спаткаў на курсах у Любліне, амаль ніхто. Дык па чым жа яны вучаць дзяцей, спытаецеся вы? А па падручніках, якія выдаюцца ў Любліне ўсё гэтай самай "фундацыяй". А іх піша ўсім нам вядомая Хелена Мэтэра, якая свае матэрыялы будуе на гістарычным матэрыяле метраполіі, не ўлічваючы асаблівасцяў Беларусі, Украіны ці Літвы, Латвіі, Малдовы... І чытаеш у падручніках такія тэксты, якія, акрамя шкоды ў патрыятычным выхаванні грамадзянскага самапачуцця жыхара Беларусі ці Украіны, аніяк не даюць... А такіх "падручнікаў" на Беларусь ужо трапіла нямала: толькі па стане па 1.01.93 г. (даныя з часопіса "Рота" №1/9/93 г.) завезена 6.610 буквароў "Чытаю папольску" Хелены Мэтэры, 7.300 паасобнікаў падручніка для 2 класа "Палюбі польскую мову" Хелены Мэтэры, тысячы рознай іншай літаратуры: метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, рэлігійнай літаратуры, польскіх календароў, часопісаў "Рота" і г.д. агульным накладам у 128.100 паасобнікаў (для параўнання: для 50-мільённай Украіны такой літаратуры завезена амаль удвая менш — 69.500 паасобнікаў...).

Думаецца мне, што Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь патрэбна неадкладна зацікавіцца справаю выкладання польскай мовы ў школах Беларусі: каго гэта школа рыхтуе для Беларусі — грамадзянпатрыётаў сваёй Бацькаўшчыны ці заўтрашніх "перабежчыкаў" у суседнюю дзяржаву, гэтак званую "гістарычную Ойчызну"... Але ж грошы за навучанне і выхаванне "польскага патрыятызму" плацяцца не з кішэні польскіх падаткаплацельшчыкаў, а беларускіх! І настаўнікі-манкурты гэтаксама "кормяцца" не за кошт польскай дзяржавы, а за беларускія рублі, зноўтакі з кішэняў беларускіх падаткаплацельшчыкаў!.. Таму будзе рэзонным і справядлівым сказаць такім вось настаўнікам, што ў суверэннай краіне няможна есці хлеб гэтай дзяржавы, а служыць дзяржаве суседняй!

Прыняты Закон аб нацыянальнай школе Беларусі, Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь, якія павінны няўхільна выконвацца усімі, у тым ліку і настаўнікамі польскай мовы ці польскіх класаў, якія ўжо растуць, як грыбы, у Гарадзенскай вобласці. Трэба усвядоміць, што вяртанне ў гэтак званыя "кшэсы всходне" ў складзе Польшчы ніколі не адбудзецца, што Беларусь будзе бараніць сваю не толькі тэрытарыяльную цэласнасць, але і змагацца супраць розных праяў шавінізму, з якога б боку дзяржаўнай мяжы ён ні імкнуўся ў Беларусь.

Магу сабе ўявіць, колькі пасыплецца лістоў-пратэстаў у адказ на мой ліст. Але, шаноўныя калегі, у мяне ёсць шмат перава перад вамі: я таксама выкладаю польскую мову, але не па падручніках Хелены Мэтэры — на Украіне выдаюцца свае падручнікі для польскіх школ: у Львове ўвесь пасляваенны час працавала польскамоўная сярэдняя школа, для якой выпускаліся і падручнікі. Апроч таго, я выкарыстоўваю ў сваёй працы падручнікі польскай мовы і чытанкі, якія выдаюцца ў Вільні і Мінску. Гэта нармальныя падручнікі, нейтральныя ў адносінах да Польшчы,у іх адсутнічае польскі шавінізм! І як бы вы там на курсах у Любліне ні "кланяліся" перад Хеленай Мэтэрай, не расхвальвалі яе падручнікі, яны ні ў якое параўнанне не ідуць з падручнікамі, якія выпускаюцца на дзяржаўным узроўні ў Беларусі, на Украіне і Літве і якія зацверджаны міністэрствамі адукацыі гэтых краін. Падручнікі ж Хелены Мэтэры — напаўаматарскія, міністр адукацыі Польшчы не мае да іх ніякага дачынення!

Другая мая перавага — я не прадаўся за "карамелькі", быў, ёсць і застаюся назаўжды патрыётам Беларусі, хаця ўжо за 20 гадоў жыву за яе межамі. Нягледзячы на тое, што ў маіх жылах цячэ кроў не толькі беларуская, але і польская, што я хаджу не ў царкву, а ў касцёл, што для мяне абедзве мовы родныя, родныя ў аднолькавай ступені! Але гэта не перашкаджае мне цвяроза ацэньваць сітуацыю як у Беларусі, так і ў Польшчы. І калі беларусы былі і надалей застаюцца талерантнымі людзьмі, то палякі заўсёды імкнуліся пашырыць свой уплыў на суседнія народы, у тым ліку на беларусаў. І ужо так "паўплывалі" на Беласточчыне, што там не засталося роднай беларускамоўнай школы хаця б дзе-небудзь у аддаленай вёсачцы: усе спрэс польскамоўныя! А чаму так сталася, вы ведаеце, напэўна, не горш за мяне!

Таму перш чым адкрываць польскамоўныя класы і школы ў Беларусі, трэба заключыць дамову з польскай метраполіяй аб адкрыцці беларускамоўных школ і ліцэяў у Польшчы, і ў першую чаргу на гістарычных беларускіх землях Беласточчыны, якія пасля вайны 1941—45 гадоў аказаліся ў складзе Польшчы. Бо калі гэтага не зрабіць, то ўжо вельмі хутка большая частка тэрыторыі Гарадзеншчыны так "паланізуецца", што пачне патрабаваць сваей "польскай аўтаноміі" па прыкладзе сваіх кроўных братоў з Віленшчыны ў Літве. Гэтага дапусціць нельга, бо Гарадзеншчына — адно з нямногіх месцаў, дзе не так шмат зямлі пацярпела ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і беларусам трэба захаваць свой радавод ад нацыі! Урэшце рэшт у палякаў ёсць Польшча, у беларусаў ёсць шматпакутная, засыпаная чарнобыльскім попелам Беларусь. І ім няма куды перабрацца з гэтай зямлі...

... Мэта майго артыкула — не заклік да канфрантацыі. Польскую мову па жаданні можа вывучаць, гэтаксама як і рускую ды іншыя мовы суседніх з беларусамі народаў, кожны з грамадзян Беларусі, бо чым больш моў ведае чалавек, тым ён багацейшы. Але нельга ператвараць вывучэнне польскай мовы ў палітыку! Горкі вопыт "русіфікацыі" мы ўжо праходзілі. А на Беларусі, на мой погляд (дай бог, каб я памыляўся), ён яшчэ не спынены, таму мы не павінны дапусціць яшчэ і "паланізацыі". І падабаецца гэта этнічным ці пашпартным палякам ці не падабаецца, яны павінны ўсвядоміць, што лёсам ім наканавана жыць не ў польскай метраполіі, а ў незалежнай дзяржаве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, выкладчык рускай і польскай моў сярэдняй школы №1 г.Ізяслава Хмяльніцкай вобласці.**

**У Беларусі створаная новая грамадзкая арганізацыя — Беларускі нацыянальны зьвяз «Пасад».**

У яго ўвайшлі Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная партыя, Нацыянальна-дэмакратычная партыя, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, Менскі гарадзкі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ. Сваімі мэтамі зьвяз «Пасад» бачыць: захаваньне беларускай зямлі, дзяржавы, мовы, культуры беларускага народа, наданьне прыярытэтнай ролі беларускаму этна-культурнаму працэсу. На сваім першым пасяджэньні арганізатары зьвязу «ПАСАД» прынялі зварот да грамадзянаў Беларусі, у якім у прыватнасьці гаворыцца: «...Хто ёсьць мы на Радзіме цяпер? Гаспадары ці лакеі?.. Няўжо не ўтрымаем на плячах Дзяржаўнасьць нашую?»

**Мікалай ГАЛКО**

# На безуладдзі далёка не заедзеш

—Народная Газета

Адно і тое ж пытанне я задаваў многім дэпутатам: ці задаволены яны вынікамі прайшоўшага парламенцкага тыдня? — і ніводзін не выказаў задавальнення.

Па-першае, не завершана дапрацоўка Закона аб выбарах. Галоўнай цяжкасцю ўсе лічылі жаданне партыйных лідэраў узаконіць галасаванне па спісах партый. Але абмеркаванне забуксавала на артыкулах аб паўторных турах галасавання.

Дэпутаты атрымалі нешта накшталт хатняга задання на дапрацоўку апошніх артыкулаў. Зразумела, што гэта акалічнасць не спадабаецца грамадству. І таварышы, і спадары дэпутаты некалі паабяцалі датэрміновыя выбары, а можа здарыцца, што і планавы час прыйдзецца перавысіць.

Па-другое, і ў зале, і ў кулуарах самай папулярнай тэмай для дыскусій стала безуладдзе. Гэтая прыкрая з'ява не знікне сама сабой. Вярхоўны Савет, разумеючы цяжкасць праблемы, падтрымаў ідэю Прэзідэнта аб "уладнай вертыкалі".

Наступныя падзеі ўсім добра вядомыя.

Пасля рашэння Канстытуцыйнага суда аб прыпыненні дзеяння адпаведных артыкулаў Закона аб мясцовым самакіраванні ўзнікла звыклая для нас з'ява — поўная неразбярыха. Ніхто не ведае, чым скончацца пасяджэнні Канстытуцыйнага суда. Неакрэсленасць ставіць кіраўнікоў раёнаў і абласцей у дзіўнае становішча. Яны не ведаюць, кім яны з'яўляюцца сёння, а тым больш не ведаюць, кім стануць заўтра.

Узнікла новая акалічнасць. Па заключэнню пастаяннай камісіі, якую ўзначальвае Дзмітрый Булахаў, нідзе не засведчана права Канстытуцыйнага суда прыпыняць дзеянне законаў, акрамя рэгламента, які прыняў... сам суд.

Спроба звярнуць увагу Вярхоўнага Савета на прававое непаразуменне выклікала палітычную буру. Зразумела, што ёсць падставы вінаваціць і непрадбачлівых аўтараў Закона аб Канстытуцыйным судзе, і прыхільнікаў Прэзідэнта, і ўсіх агулам... Але ж самае галоўнае — знайсці выйсце.

Нехта прапанаваў не рабіць на сесіі перапынку. Папрасіў аб гэтым і кіраўнік адміністрацыі Леанід Сініцын. Пытанне ў парадак сесіі ўключана. Паўнамоцтвы суда будуць разгледжаны ў будучым.

А мы маем тое, што маем...

## *BELARUS: President Emphasizes Economic Reform*

President of the Republic of Belarus Alexander Lukashenko made an important statement on his administration's economic policy. Appearing live on national TV, President Lukashenko emphasized that economic reform was of strategic importance to his Government. In particular, within a short period of time of this administration, foreign trade and prices on practically all goods and services, with the exception of only a few items - bread, milk and utilities - have been liberalized. The Belarusian ruble has been adopted as the national currency. Hard budget constraints were introduced through the tightening of credit and subsidies to enterprizes. Current deliveries of energy products from Russia have been paid almost in full. Debts to Western creditors have decreased.

The President acknowledged that there had been delays in creating market environment, as well as in the privatization and demonopolization of production and introduction of bankruptcy mechanism.

Strategically, this does not mean in any way that free pricing principles as a market basis of the reforms have been renounced. While introducing a social safety net targeted exclusively at the lowest income groups, the Government will return this December to a consistent implementation of the price liberalization.

To overcome delays, the President instructed the Government to accelerate privatization and corporatization, to provide real financial support to entrepreneurship, to abolish any interference in the price formation, except for natural monopolies, to decrease subsidies on utilities, to remove any limitations on foreign trade, as well as to promote foreign currency market formation and foreign private investments.

President Lukashenko expressed his confidence that all segments of the Belarusian society would support the efforts undertaken by the Government to further market reform. Belarus also counts on assistance from the international financial institutions and governments and business community of the developed countries.

## *BELARUŚ TO JOIN PARTNERSHIP FOR PEACE*

The new Belarusian leadership has taken a decision of major importance regarding a crucial aspect of the nation's strategic security and foreign policy.

**The Security Council of the Republic of Belaruś announced yesterday its decision that Belaruś would join the Partnership For Peace.**

The accession of Belarus to the PFP was delayed by a protracted debate underway since the inception of the Partnership on the compatibility of the PFP with aspiration of Belarus towards neutrality reflected in the Constitution. The financial implications of participation were also a topic of debate.

**November 29, 1994**

НАДЫХОДЗЯЦЬ КАЛЯДЫ... *Гэта час, калі людзі дзеляцца сьвяточнымі падарункамі...*
*Не забудзьцеся, калі ласка, зрабіць сьвяточны падарунак таксама і для "Беларускага Дайджэсту"!*

■ Парламент: дзень за днём

# ПЕРАД ВЫБАРАМ

"Мінская Праўда"

ДЭПУТАЦКІ КОРПУС расшырыў парадак дня яшчэ чатырма пытаннямі. Будуць абмеркаваны законапраекты аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету, аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі /экалагічны падатак/, праект пастановы аб далучэнні Беларусі да Канвенцыі аб міжнародным гандлі відамі дзікай фауны і флоры, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення. І, нарэшце, прадметам абмеркавання сесіі будзе і бібліятэчная справа ў Рэспубліцы Беларусь.

Затым дэпутаты ўзяліся за адзін з важнейшых законаў — "Аб выбарах". Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык сказаў, што камісія не падтрымлівае змянення цяперашняй выбарчай сістэмы. Паводле яго слоў, за імкненнем перайсці да змешанай сістэмы галасавання стаяць амбіцыі партыйных функцыянераў, якія імкнуцца пракласці сабе лёгкі шлях у новы парламент. Называліся і магчымыя расходы на правядзенне выбараў. Паводле слоў Уладзіміра Леўчыка, выбары будуць каштаваць прыкладна 90 мільярдаў рублёў, на думку старшыні Цэнтрвыбаркома Аляксандра Абрамовіча, гэтая лічба складзе 69 мільярдаў.

Усё ж дэпутаты не адважыліся ўшчыльную падысці да разгляду канцэптуальных палажэнняў гэтага законапраекта: ці варта захаваць у Беларусі мажарытарную сістэму выбараў або ў мэтах развіцця абвешчанага палітычнага плюралізму дапоўніць яе выбарамі дэпутатаў у парламент па спісах палітычных партый? Ні "так", ні "не" не адважыліся сказаць дэпутаты і ініцыятыве ветэранскай арганізацыі аб устанаўленні квоты для інвалідаў і ветэранаў.

Каб не нагнятаць страсці, дэпутаты вырашылі "для размінкі" абмеркаваць менш спрэчныя артыкулы — як і кім фарміруюцца выбарчыя акругі, за якія сродкі праводзяцца выбары, як можна абскардзіць рашэнні камісій па выбарах? Аднак і гэтыя пытанні выклікалі даволі многа дэбатаў у зале пасяджэнняў. У выніку было вырашана, што ў законе не трэба абмяжоўваць выбарчыя акругі пэўнай колькасцю выбаршчыкаў. У закон перанесена фармулёўка, замацаваная ў Канстытуцыі: "колькасць выбаршчыкаў у кожнай акрузе павінна быць прыкладна аднолькавай". Не падтрымалі дэпутаты і прапанову парламенцкай Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву аб тым, што асноўная работа па арганізацыі выбараў і фарміраванню выбарчых акруг кладзецца на галіну выканаўчай улады. У адпаведнасці з рашэннем парламентарыяў, да арганізацыі выбараў новага парламента будуць прыцягнуты мясцовыя Саветы і іх выканаўчыя камітэты. Ну а што датычыць фінансавых праблем, то дазволена выкарыстанне толькі сродкаў, выдзеленых з дзяржаўнага бюджэту.

Многа спрэчак выклікала прапанова Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву абмежаваць законам магчымасць вылучэння кандыдатаў ад палітычных партый. У прыватнасці, палажэнне аб тым, што ў партыйныя спісы дазваляецца ўключаць толькі членаў партый і грамадска-палітычных аб"яднанняў, дэпутатам Алегам Трусавым было расцэнена як парушэнне правоў чалавека, паколькі людзі, якія працуюць у органах унутраных спраў, КДБ, Кантрольнай палаце, не па ўласнай волі прыпынілі членства ў палітычных аб"яднаннях. І, на думку дэпутата, пэўныя палітычныя погляды, незалежна ад фармальнага членства, даюць грамадзянам рэспублікі магчымасць выстаўляць сваю кандыдатуру ў новы састаў парламента па партыйных спісах.

"Вольным тлумачэннем" Канстытуцыі рэспублікі назваў дэпутат Уладзімір Грыбанаў прапануемую ў закон фармулёўку аб тым, што права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты прадастаўляецца "шэрагу грамадскіх аб"яднанняў". На яго думку, артыкул 70 Асноўнага Закона рэспублікі, які абвясціў, што "права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты належыць грамадскім аб"яднанням, працоўным калектывам і грамадзянам у адпаведнасці з законам", азначае, што ўсе грамадскія аб"яднанні могуць выкарыстаць такую ініцыятыву. Зрэшты, большасць парламентарыяў з ім не згадзіліся, і абмяркоўваемы артыкул закона прайшоў у фармулёўцы камісіі Уладзіміра Леўчыка.

Не адобрылі дэпутаты і прапанову Генадзя Казлова наконт таго, што кандыдат можа быць зарэгістраваны толькі пасля прадастаўлення медыцынскага заключэння аб тым, што ён псіхічна здаровы. Толькі 96 галасоў набрала гэтая папраўка да закона, хоць сур"ёзнай аргументацыі "супраць" ніхто з прысутных у зале пасяджэнняў не выказаў.

Канчаткова "застопарыла" разгляд законапраекта прапанова парламенцкай камісіі павялічыць колькасць даверанных асоб кандыдатаў да дзесяці чалавек, але ў мэтах эканоміі заработную плату ім не плаціць. Большасць з тых, хто выказаўся, расцанілі гэта як прадастаўленне дадатковых ільгот чыноўнікам высокага рангу, якія могуць прыцягнуць да агітацыйнай работы ўвесь падпарадкаваны сабе апарат.

Пытанняў узнікала шмат: праводзіць або не сустрэчы з кандыдатамі ў дэпутаты на тэрыторыі воінскіх часцей, што можна аднесці да паняцця "тэрыторыя", як забяспечыць аднолькавыя правы ўсім кандыдатам у сродках масавай інфармацыі і гэтак далей. Адразу паведамім, што па большасці пазіцый парламентарыі не прыйшлі да агульнай думкі, і таму шэраг артыкулаў адпраўлены на дапрацоўку.

Згоды ўдалося дасягнуць па аднаму вельмі важнаму пытанню — колькі трэба набраць галасоў, каб быць выбраным? Пасля гарачых спрэчак прыйшлі да рашэння: у першым туры кандыдат лічыцца выбраным, калі ён атрымаў 50 працэнтаў плюс адзін голас "за" пры ўмове, што на выбарчыя ўчасткі прыйшло звыш палавіны людзей, занесеных у спісачны састаў. Калі гэтай нормы не дасягнуў ні адзін з кандыдатаў, то назначаецца другі тур, у якім удзельнічаюць два прэтэндэнты, якія мелі лепшы вынік пасля першага тура. І ў гэтым туры для таго, каб выбары адбыліся, неабходна, каб да выбарчых урнаў прыйшло звыш палавіны людзей са спісачнага саставу. Пераможцам лічыцца той з двух прэтэндэнтаў, хто набярэ большую колькасць галасоў. Але ёсць адно вельмі важнае нованядзенне — пераможца стане дэпутатам толькі ў тым выпадку, калі колькасць прагаласаваўшых "за" перавышае колькасць прагаласаваўшых "супраць"

*БЕЛІНФАРМ.*

# ПАДАРОЖНАЕ РАЗВАЖАННЕ

Зусім неспадзявана быў я сёлета і ў Канадзе, і ў Беларусі. Хаця я паляк, але блізкія мне і справы беларусаў ды ўкраінцаў. У Канадзе, а дакладна ў Калгары, я многа даведаўся аб жыцці палякаў і украінцаў у гэтым горадзе і ва ўсёй краіне, а амаль нічога пра беларусаў. Аднак у міжнародным аддзеле гарадской бібліятэкі напаткаў я васьмідзесяцігадовага чалавека, які чытаў польскую газету. Я ўзяў расейскую газету, бо польская была адна і гэты незнаёмы ўзяў яе першы. Ён заўважыў газету ў маёй руцэ і сказаў:

— Здравствуйте!

Я адказаў: „Здравствуйте", але ўбачыўшы польскую газету ў яго руках запытаў па-польску:

— Pan Polak?

— Nie, ja — internacjonał.

Здзіўлены запытаў я яго:

— Co to znaczy?

Тады ён адказаў, што ён беларус з-пад Картуз-Бярозы.

— Чаму тады вы інтэрнацыянал, а не беларус?

І тут пачуў я так тыповае для беларусаў паясненне, што Беларусь ніколі незалежнай дзяржавай не будзе і беларуская мова не будзе дзяржаўнай. Я, паляк, прабаваў супрацьставіцца таму нацыянальнаму песімізму, але без поспеху.

Можна сказаць: адзін прадстаўнік аб нічым яшчэ не сведчыць. Аднак, пабываўшы ў Беларусі, я пераканаўся, што той беларус у Канадзе думае таксама, як большасць беларусаў на сваёй зямлі. На вёсках яшчэ можна пачуць беларускую мову, але не чуў я яе ў горадзе. Праўда, надпісы на вуліцах цяпер у большасці беларускія, але можна сказаць, што на гэтым канец. Я не толькі не чуў беларускай мовы на вуліцы і ў магазінах, але і мае спробы гаварыць па-беларуску, праўда, няўдалыя, спатыкаліся толькі са здзіўленнем.

Беларусы! Калі вы самі не будзеце змагацца за беларускасць сваёй зямлі, ніхто за вас, і без вас, рабіць гэтага не будзе, а, нават, рабіць не можа!

*Ніва* УЛАДЗІСЛАЎ КЛІМЭК

## Данія дапаможа Беларусі ўступіць у Савет Еўропы, абяцаў дацкі міністр Пэтэрсан

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Да гэтага часу беларуска-дацкія адносіны нічым асаблівым не вызначаліся. Можна нават сцвярджаць, што сярод іншых невялікіх, але вельмі развітых краін Еўропы Данія цікавіла нас больш як месца, дзе паспяхова аздараўляліся нашы дзеці — у мінулым годзе там пабывала амаль 400 дзяцей з Беларусі. Што ж датычыцца эканамічнага супрацоўніцтва, то тут яўна склаўся дысбаланс. Наш экспарт у мінулым годзе быў у сем разоў меншы, чым імпарт з Даніі, адкуль мы атрымлівалі розныя машыны, абсталяванне, заправачныя станцыі, пшаніцу і, вядома, славуты дацкі шакалад. Што зрабіць, каб беларускіх тавараў больш з'явілася на дацкім рынку, як актывізаваць наша эканамічнае супрацоўніцтва так, каб гэта эфектыўней дапамагло краіне выйсці з эканамічнага крызісу?

Аб гэтым ішла гаворка на сустрэчах спадара Пэтэрсана са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыславам Грыбам, прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам, міністрам замежных спраў Уладзімірам Сянько. У выніку візіту былі падпісаны дагавор аб эканамічным і індустрыяльна-тэхнічным супрацоўніцтве, пагадненне аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі замежных спраў.

Як адзначалася на прэс-канферэнцыі, у хуткім часе будзе падпісана пагадненне аб міжнародных аўтамабільных, пасажырскіх і грузавых перавозках паміж дзвюма краінамі. Спадар Пэтэрсан запэўніў беларускі бок, што яго краіна падтрымае Беларусь у справе ўваходжання ў Савет Еўропы.

Падчас візіту таксама актыўна абмяркоўвалася тэма далучэння Беларусі да натаўскай праграмы "Партнёрства дзеля міру". Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько, спасылаючыся на размову з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам, заявіў журналістам, што Беларусь у хуткім часе абвесціць аб станоўчым вырашэнні гэтага пытання.

Таксама стала вядома, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, магчыма, наведае ў сакавіку будучага года Данію, дзе пройдзе канферэнцыя ААН па сацыяльных пытаннях.



## Знаныя Госьці адведалі Мішыган

Нядаўна – у месяцы лістападзе гэтага году, б. міністр замежных спраў Беларусі – Пятро Краўчанка ў асысьце а. М. Страпка, Янкі Ханенкі і менскага мастака Эдуарда Агуновіча адведалі вялікую міжнародную хрытатыўную арганізацыю "Міжнародная Дапамога, Інк."

Пры нагодзе праездам, госьці затрымаліся на некалькі гадзін у сям'і выдаўца "Беларускага Дайджэсту" ў Грэнд Рэпідс.

Высокі госьць і ягоныя спадарожнікі мелі вельмі добрую нагоду пабачыць дзейнасьць харытатыўнае арганізацыі ды на хаду абмяняцца думкамі з некаторымі працаўнікамі гэтае ўстановы. Думаецца, што гэтае "пралётнае" знаёмства з "International Aid, Inc." пакіне ў гасьцей хоць нейкі сьлед добрых успамінаў.

н.

## Улады зацікаўлены ў мажарытарнай сістэме выбараў, партыі — у прапарцыянальнай. Ці ляжыць ісціна пасярэдзіне?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Большасць прадстаўнікоў палітычных партый, што ўдзельнічалі ў сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам, адказалі на гэтае пытанне станоўча. Дарэчы, то была першая сустрэча з лідэрамі партый на такім высокім узроўні. Мэту яе вызначыў Мечыслаў Грыб ва ўступным слове: высветліць, ці неабходна нам своеасаблівае пагадненне паміж партыямі і ўладай накшталт дагавора аб грамадзянскай згодзе ў Расіі, і другое — давядацца, як партыі ставяцца да розных выбарчых сістэм і што прапануюць.

У выніку размовы, якая спачатку нагадвала камсамольскі сход і толькі потым стала актыўнай і сапраўды зацікаўленай, высветлілася наступнае. На думку лідэраў нашых партый, палітычнае становішча ў рэспубліцы пакуль што не патрабуе такіх экстранных захадаў, як падпісанне дагавора аб грамадзянскай згодзе, але гэта не значыць, што такая неабходнасць не ўзнікне, асабліва пасля наступных выбараў, і таму рыхтавацца да пагаднення трэба. Што ж тычыцца выбарчай сістэмы, то тут ваганняў не было: яна павінна быць змешанай — лепш у прапорцыі пяцьдзесят на пяцьдзесят. У гэтым зацікаўлены нават не столькі партыі, колькі самі грамадзяне, бо тады ніводны голас не будзе згублены, ніводная палітычная плынь не будзе пазбаўлена магчымасці ўплываць на становішча цывілізаваным шляхам.

Але ці не позна высвятляць гэтае пытанне, ці не адышоў цягнік, бо дапаўненні у закон аб выбарах ужо прайшлі першае слуханне ў парламенце? Мечыслаў Іванавіч Грыб упэўнены, што магчымасці скарыстаць меркаванне палітычных партый канчаткова не згублены. Змяненні ў закон будуць зноў разглядацца на сесіі, якая адновіць сваю работу на наступным тыдні.

### Курсы валют на 11 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6800 | 7080 | 4493 | 4637 |
| "Алімп" | 6860 | 7040 | 4484 | 4662 |
| "Дукат" | 6850 | 7100 | 4500 | 4750 |